# САВЕТЫ БЕЛАРУСІ

**Штомесячны дадатак да газэты „САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ“**

№ 3 (7) — Сакавік 1929 г. — № 3 (7)


## ЗЬМЕСТ



# Саветы і Народна-гаспадар. будаўніцтва.

З кожным годам карэньні сацыялістычнага будаўніцтва ўсё болей і болей павінны ўглыбляцца ў штодзённую працу нашага савецкага апарату і асабліва саветаў.

Цяпер ужо кожнаму зусім ясна пытаньне, што саветы зьяўляюцца ня толькі ворганамі, якія на справе ажыцьцяўляюць дыктатуру рабочае клясы, але і зьяўляюцца трыбунай, лябараторыяй. Дзе прапрацоўваецца масавы вопыт, ініцыятыва шырокіх мас працоўных асабліва вакол пытаньняў народна-гаспадарчага будаўніцтва.

Саветы закліканы цяпер калякtыўна больш, чым калі небудзь мабілізаваць як членаў Савету, так і насельніцтва вакол пляну сацыялістычнага будаўніцтва, прычым ажыцьцявіць ня толькі пляны гадавыя, або ад выбару да выбару, але і значна на больш доўгі пэрыяд і калі патрэбна будзе то нават пляны пяцігоднята разьвіцьця народнай гаспадаркі і культуры.

Адсюль і першая задача, што **Саветы павінны паступова ўвесь час, а не скачкаабразна ажыцьцяўляць сваю гаспадарчую работу**—бесьперарыўна з году ў год, бо цяпер больш менш сур'ёзная праца ня можа быць ажыцьцяўлена ў адзін год, а патрабуе значна больш доўгага пэрыяду, што і павінен улічваць як пры здачы спраў, стары Савет, так і пры прыёмцы новы склад Савету.

Матар'ялы па гэтай частцы часта нам прыносяць зусім іншыя весткі—ёсьць яшчэ такія саветы, якія працуюць толькі з разьлікам на тое, каб „зрабіць справаздачу“ і ўсе. Усе іншае „няхай робіць той, хто будзе працаваць у новым складзе“, „Я свае адпрацаваў ці адседзеў“. Такія разважаньні шкодны і памылковы. З імі далёка ня ўедзеш.

Наша плянавае будаўніцтва, якое накіравана цалкам на узмоцненае правядзеньне сацыялістычнай рэканструкцыі усей народнай гаспадаркі, шляхам рашучага курсу на індустрыялізацыю краіны і усямернага падняцьця сельскай гаспадаркі, якая цяпер у даны пэрыяд надзвычайна адстала ў тэмпе свайго разьвіцьця, але якая шляхам калектывізацыі, пабудовы савецкіх гаспадарак, правядзеньнем у шырокім памеры вытворчага коопэраваньня сялянскіх гаспадарак, з адначасным стымуляваньнем росту індывідуальных бедняцка-серадняцкіх гаспадарак—можа быць высока паднята ў таварных адносінах.

Наша плянавае будаўніцтва патрабуе таксама абавязковага павялічэньня пралетарскіх кадраў і росту яго удзельнай вагі ня толькі ў агульным балянсе працы, але і у вытворчасьці і наогул узмацненьня кіруючай ролі пралетарыяту у народна-гаспадарчым будаўніцтве.

Гэта лінія павінна быць зусім зразумела і бясспрэчна, калі мы прасочым за тым, як энэргічна і з ўсёй рашучасьцю разьвіваецца наступ на капіталістычныя элементы, вядома на данай стадыі разьвіцьця сацыялістычага будаўніцтва выключаючы узмоцненае супраціўленьне і гэтым абвастрэньне адпаведным парадкам клясавай барацьбы як у горадзе так і ў вёсцы. У гэтай барацьбе і асабліва на гаспадарчым фронце Саветы як ворганы дыктатуры рабочае клясы абапіраючыся на рабочых, вясковую бедноту і ў цесным саюзе з серадняком змогуць рашуча наступаць на кула у вёсцы і спэкулянта у горадзе.

Бяз гэтага не магчыма ажыцьцявіць правільна наша будаўніцтва якое накіроўваецца пры гэтым па шляху сацыялістычнага будаўніцтва і сацыялістычнай рэканструкцыі пачынаючы ад складаных завадзкіх пабудаваньняў, станкоў да сялянскага плуга ці тавараабменнай коопэрацыйнай крамы. Кожная частка вялікага мэханізму павінна адчуваць штодзённае палепшаньне і удасканаленьне, толькі тагды у выніку будзе дасягнута тое, аб чым гаворыць кантрольныя лічбы пяцігадовага пэрспэктыўнага пляну разьвіцьця народнай гаспадаркі, г. зн. прадукцыйнасьць працы павінна быць паднята за пяцігодзьдзе ня менш чым на *сто* процантаў; пытаньне будаўніцтва на *трыццаць пяць* процантаў; зьніжан сабекошт прамысловай прадукцыі на *трыццаць два* проценты; адпускныя цэны на выпускаемыя прамысловыя тавары зьніжаны на *дваццаць пяць* процантаў; паднята рэальная зарплата рабочай клясе у буйных прадпрыемствах на *пяцьдзесят процантаў*; рабочае жыльлёвае будаўніцтва ў рабочых раёнах павінна быць пастаўлена так, каб жыльлёвая плошча была даведзена для рабочых да *васьмі* кв. мэтраў карыснай плошчы на кожнага рабочага; падняць ура-

джайнасьць збожжавых культур на *сорак пяць* процантаў; ў саўгасах ураджай падняць на *семдзесят*, а калектыўных гаспадарках на *шэсьцьдзесят* процантаў; павялічыць пасеўную плошчу на *пятнаццаць* процантаў; да *ста* процантаў давесьці пасеў чыстагатунковым насеньнем: дзецям школьнага узросту на ўсе *сто* працантаў даць магчымасьць наведваць школу; на *сто* процантаў павялічыць лік школ для узрослых, як і шырока разгарнуць сетку профтэхнічных школьных установаў для падрыхтоўкі кваліфікаванай рабочай сілы і г. д —адным словам магчыма было-б шмат яшчэ што адзначыць з таго, што неабходна ажыцьцявіць за пяцігодзьдзе пачынаючы ад замены на *сто* процантаў сахі плугамі, канчаючы пабудовай буйных раённых (дзяржаўных) і вясковых электрастанцый у задачу якіх уваходзіць забясьпечыць народна-гаспадарчае будаўніцтва выгаднай і таннай энергетычнай базай, якая дае магчымасьць патрабаваць на толькі хуткіх тэмпаў росту, але і атрымаць арганічныя зьмены ў самім вядзеньні працавых працэсаў.

Гэта задачы, на якіх магчыма было-б слыніцца на кожнай ў пасобку і дэталёва разглядзець і абасчаваць іх дзяржаўную неабходнасьць і каштоўнасьць. Для прыкладу возьмем хоць-бы *падняцьце ураджайнасьці*—якую мяркуецца у параўнаньні чатырох апошніх гадоў падняць па збожжу на сорак пяць процантаў. Гэта мера—гэты рост ураджайнасьці патрабуе значнай і напруджанай працы. Яна павінна у пэўным памеры зьмяніць выгляд нашай сельскай гаспадаркі, уцягнуць больш рабочых рук, якія зараз у значнай меры не скарыстоўваюцца ў вёсцы дзякуючы недастатковай інтэнсіфікацыі сельска-гаспадарчых працэсаў у выніку чаго і ёсьць яшчэ не скарыстаная рабочая сіла, якая павялічвае і так ужо існуючае беспрацоўе у гарадох. Апрача таго падняцьце ураджайнасьці, бязумоўна, павінна таксама значна падняць агрыкультурную працу і ўзмацніць прымяненьне ва усей сельскай гаспадарцы лепшых сельска-гаспадарчых машын, якія павінны аблягчыць працу пры адначасным росьце зьлішкаў накіроўваемых як для снабжэньня і задавальненьня разьвіваючайся прамысловасьці, так і гарадоў.

Па падняцьцю *прадукцыйнасьці працы*, для прыкладу, можна сказаць наступнае: Падняцьце прадукцыйнасьці працы зьяўляецца стрыжнем усей справы без якога немагчыма ні пасьпяховае разгортваньне нашага сацыялістычнага будаўніцтва ні індустрыялізацыі краіны. Для усяго гэтага неабходна ня толькі дысцыпліна працы, зьліквідаваньне прагулаў, ці лепшая арганізацыя працы, але і лепшая рэконструкцыя усіх працэсаў на заводзе і фабрыцы—установка новых машын, прымяненьне ня ў меншай меры дасягненьняў хэміі, чым ў сельскай гаспадарцы, але галоўнае, ва ўсім гэтым зьяўляецца і падрыхтоўка новых дапаўніцельных належным чынам кваліфікаваных і высока-дысцыплінаваных пралетарскіх кадраў для выпаўненьня новых сацыялістычных задач, якія ляжаць на рабочай клясе.

Урэшце хоць бы яшчэ аб *зьніжэньні будаўнічага індэксу*, якое павінна даць вялікую экономію для нашага бюджэту, як і даць магчымасьць з'эканомленыя сумы накіроўваць па іншых лініях ці яшчэ больш узмацніць тэмп, яшчэ больш фарсіраваць тыя галіны, якія ўсё яшчэ недастаткова задавольваюць ажыцьцяўленьне як агульнай задачы па індустрыялізацыі краіны, так і задавальненьня шырокага попыту спажывецкага і будаўнічага рынку. Але каб гэтага дасягнуць трэба надзвычайныя і ўдумчывыя адносіны да нашых будаўнічых плянаў і праэктаў. Кожны непрадуманы крок, кожны процэнт праліку цяпер па Беларусі—гэта больш аднаго мільёну руб. Кожны дзень зацягваньня пачатку будаўнічага сэзону і недавучот у будаўнічых матар'ялах—гэта значыць не патаніць, а падарожыць будаўніцтва, гэта значыць не ажыцявіць зьніжэньня будаўнічага індэксу—паслабіць наш неабходны напруджаны тэмп будаўніцтва.

Так паступова магчыма было-б выкласьці кожную частку і частачку таго вялізарнага пляну нашага гаспадарчага будаўніцтва дзе кожная дэталь зьяўляецца цэлай праблемай ўсяго вялікага цэлага дзе не выпаўніць аднаго, паслабіць другое, гэта значыць, сарваць адну частку ці затармазіць другую і г. д.

Вось чаму асабліва важна і неабходна, каб плянамерна, частка за часткаю, ажыцьцяўляліся з году у год намечаныя гадавыя кантрольныя заданьні, і заданьні гэтага году, якія зьяўляюцца па сутнасьці *першым годам нашай пяцігодкі*, павінны быць выпаўнены у сто процантным памеры інакш гэта адаб'ецца на далейшых гадох іх выпаўненьня.

Гэтае, *сяміпроцантнае* зьніжэньне сабекошту, *пятнаццаці процантнае* зьніжэньне будаўнічага індэксу, *трох .процантнае* пашырэньне пасеўнай плошчы, *сяміпроцантны* рост ураджайнасьці, пад'ём прадукцыйнасьці працы на 20%,—за ўсімі гэтымі дырэктыўнымі паказальнікамі і лічбамі хаваецца заклік да новых нанова абіраемых Саветаў і ўсёй савецкай грамадзкасьці да энергічнай і напруджанай працы на ўсіх франтох сацыялістычнага будаўніцтва, уключаючы сюды і сацыяльна-культурны сэктар.

Толькі на аснове актыўнай і сапраўднай барацьбы з „вузкімі“ месцамі народна-гаспадарчага пляну на базе далейшага і рашучага наступу сацыялістычных элементаў на прыватна - капіталістычныя будзе зьнішчана тая барацьба, якая разгарнулася супроць элементаў вёскі і гораду.

І ўрэшце неабходна каб саветы для большай актывізацыі працы саветаў, асабліва па гаспадарчым пытаньням разгарнулі-б *шырокую крытыку і самакрытыку* з боку рабочых мас па ўсіх мерапрыемствах нашага гаспадарчага будаўніцтва і пры дапамозе самых жа рабочых і ажыцявіць пляны і адхіліць недахопы, тое-ж самае трэба рабіць і па частцы шырокага ўцягненьня вясковай бедноты, батракоў і серадняцкай часткі вёскі да актыўнага ажыцьцяўленьня працы як па падняцьцю сельскай гаспадаркі, індустрыялізацыі яе і г. д., а асабліва па момантах вытворчага коопэраваньня і колектывізацыі вёскі якая ва усей плянава-гаспадарчай працы павінна даць у выніку зусім новыя магчымасьці ў справе плянавага дзяржаўнага рэгуляваньня у іх момантаў абмену гораду з вёскай—прамысловасьці з сельскай гаспадаркай, праз каапэрацыйна-дзяржаўныя загатоўкі, каротка-тэрміновыя і доўга-тэрміновыя кантрактацыі сырцовай масы, праз дагаворы і авансы і таму падобныя формы ўзаемаадносін.

Усе вышэйсказанае коратка зьяўляецца тым, да чаго прыводзяць задачы Саветаў ў гаспадарчым будаўніцтве? Яны патрабуюць, абавязкова, *каб праца Саветаў на дзевяноста* процантаў была сканцэнтравана на гаспадарчых задачах і менш на адміністрацыйных мерапрыемствах.

Толькі тагды дзе-б Савет тэрытарыяльна не знаходзіўся, ён будзе мець так званую жывую працу, зможа сапраўды падняць актыўнасьць усяго насельніцтва і будзе сапраўды тым органам Улады, для чаго яго заклікала Кастрычнікавая Рэволюцыя

*М. Карклін.*

# Папярэднія вынікі выбараў сельсаветаў.

Перавыбары нізавых саветаў у Беларусі ўжо амаль скончаны. Ёсьць даволі матар'ялаў і фактаў на падставе якіх ужо можна рабіць папярэднія вынікі праведзенай справаздачна-перавыбарчай кампаніі.

Гэтая перавыбарчая кампанія праходзіла на вёсцы ў абставінах нябывалага абвастрэньня клясавай барацьбы. Кулацкая актыўнасьць у гэтыя перавыбары, бязумоўна, вышэй мінулага часу, яна праяўлялася вастрэй чымся на перавыбарах ў 1927 годзе. Кулак у цэлым шэрагу месц куды раней падрыхтаваўся да перавыбараў, чымся нашы нізавыя партыйныя і савецкія органы. Разам з гэтым, мы маем у сучасную перавыбарчаю кампанію *лепшую арганізаванасьць батрацтва і беднаты, больш моцны саюз беднаты з асноўнай масай серадняцтва.* На ўсім працягу справаздачнасьці і перавыбараў саветаў, мы наглядалі надзвычайна вялікую актыўнасьць абсалютна ўсіх груп насельніцтва. Актыўнасьць выбаршчыкаў праяўлялася асабліва выразна вакол пытаньняў справаздачнасьці, наказу, кандыдатур, выбараў і пытаньняў сацыялістычнага будаўніцтва наогул. З самага пачатку і на працягу ўсёй выбарчай кампаніі кулакі і розныя варожыя элементы з быўшых людзей у большасьці выпадкаў мелі паражэньне: арганізаваная беднота ў саюзе з серадняком адыгрывала рашаючую ролю. Вось чаму кулацтва ў час перавыбараў выступіла ў шэрагу месц супроць вясковых актывістых і бедных шляхам кулацкага тэрору, чым выказала сваю слабасьць, слабасьць задыхаючага ворага. *Кулакі і нэпманы ў сваёй масе былі праваленаы на сходах выбаршчыкаў* у большасьці выпадкаў, яны былі пакараны судом рэвалюцыйнай законнасьці за забойства, падпалы і г. д.

Справаздачная кампанія праходзіла пад дадзеным нашай партыяй лёзунгам—шырокай крытыкі і самакрытыкі. На падставе дырэктыў усе саветы і іх дэпутаты рабілі справаздачы перад сваімі выбаршчыкамі. Работа саветаў падлягала ўсебаковаму абгаварэньню шырокіх мас выбаршчыкаў. Не заставалася ніводнага вучастку працы, ніводнага практычнага пытаньня якія-б у сваёй большасьці не папалі пад дзелавую крытыку бедняцкіх і агульна-справаздачных сходаў. Добрая праца саветаў і паасобных савецкіх работнікаў,знайшла ў шэрагах выбаршчыкаў правільную ацэнку: тут мы маем у большасьці рэзалюцыі, якія прызнаюць працу саветаў здавальняючай, а таксама ёсьць шмат і такіх пастаноў выбаршчыкаў, якія рашуча асуджаюць работу дэпутатаў і нават паасобных саветаў у цэлым. Мала было казёншчыны і шаблёну, *больш было дзелавога і прадуманага ў бязьлітаснай крытыцы ў гэтую справаздачную кампанію.* Наказ дэпутатам у гэтую выбарчую кампанію заняў шмат ўвагі выбаршчыкаў і зараз зьяўляецца *першым канкрэтным плянам адказнай работы саветаў* перад сваімі выбаршчыкамі. Разбуйненьне выбарчых вучасткаў да 100 проц. у паасобных раёнах, урэгуляваньне павестачнае сыстэмы, падрыхтоўка памяшканьняў для сходаў, ажыцьцяўленьне плянавага парадку спрыялі колькаснай і якаснай актыўнасьці выбаршчыкаў на справаздачных сходах і асабліва на выбарчых.

Актыўнасьць яўкі на сходы выбаршчыкаў у гэту кампанію значна павялічылася. У той час, калі ў мінулую кампанію зьявілася на выбарчыя сходы выбаршчыкаў мужчын і жанчын—46,9 проц., у гэтым годзе—58,9 проц.: рост актыўнасьці на 12 проц. Актыўнасьць жанчын у гэтую кампанію дае большы рост: у мінулым мы мелі 26,4 проц. яўкі жанчын на выбарчыя сходы, зараз мы маем сярэдні процант яўкі жанчын па Беларусі 42,8 проц.—прырост актыўнасьці на 16,4 проц. Па сацыяльнаму складу, на падставе выбарачнай праверкі ў некалькіх раёнах, выбаршчыкі праявілі актыўнасьць у наступным выглядзе: сельска-гаспадарчыя рабочыя і батракі—65,7 проц. супроць мінулай кампаніі—56 проц.; сяляне—56,2 пр. супроць—45,7 проц.; саматужнікі 71,5 проц. супроць мінулага—59,9 проц.; служачыя—70,4 проц. супроць 66,6 проц. у мінулым і вясковая інтэлігенцыя—81,7 проц. супроць 87,2 проц. у перавыбарах 1927 году. Такім чынам памяншэньне проценту яўкі ў параўнаньні з мінулым наглядаецца толькі з боку вясковай інтэлігэнцыі на 5,5 проц. Усе іншыя групы насельніцтва даюць павялічэньне актыўнасьці: рабочыя—на 9,1 проц., сельска-гасп. рабочыя—на 11,6 проц., батракі—на 9,7 проц., сяляне—на 10,5 проц., служачыя—на 3,8 проц. і саматужнікі—на 11,6 проц. У гэтую кампанію ўпершыню рабіўся вучот выбаршчыкаў сялян зьявіўшыхся на выбары па суме ўплачваемага падатку на едака. У выніку гэтага падліку мы маем: аслабаненых ад падатку зьявілася—57,1 проц. ад усіх меўшых права выбараў; плацячых да 1 руб. на едака—54,9 проц., плацячых ад 1 да 2 руб.—57,2 проц., плацячых ад 2 да 5 руб.—56,1 проц., ад 5 да 10 руб.—55,4 проц. і плацячых звыш 10 руб. на едака—55 проц. З гэтых падлікаў можна бачыць, што найбольшую яўку даюць сяляне беднякі і серадднякі, хаця наогул па ўсіх групах хістаньне проценту яўкі нязначнае. У дачыненьні актыўнай яўкі жанчын па сацыяльным групам найвышэйшы процант даюць вясковыя інтэлігэнткі і служачыя—78,3 проц.; потым работніцы—64 проц., саматужніцы—56,9 проц., батрачкі—51,4 проц., сялянкі—40,4 проц. Размеркаваньне актыўнасьці сялянак па падатковым групам саўпадае з агульным прыведзеным размеркаваньнем.

Такім чынам папярэднія лічбы ўсіх акруг і паасобных раёнаў яскрава гавораць аб значным павялічэньні палітычнай актыўнасьці пралетарскага асяродку вёскі: рабочых, сельгасрабочых і батракоў; процант гэтай актыўнасьці дае сыстэматычны рост з кожным годам. Прыведзеныя паказчыкі актыўнасьці рабочых, батракоў, беднаты і серадняцтва самі за сябе гавораць аб пасьпяховай барацьбе ў наступленьні на кулацтва, яны гавораць аб добрых агульных выніках перавыбараў саветаў на вёсцы. У гэтым, бязумоўна, адыгралі вялікую ролю: правільнае і сваечасовае кіраўніцтва на працягу ўсяе выбарчай кампаніі, бязупынная праца парт'ячэек на мясцох, актыўны удзел у перавыбарах грамадзкіх арганізацый, наш друк, а таксама выезд адказных работнікаў і рабочых груп на вёску. Мы мелі ў перавыбарчую кампанію праяўленьне новых форм кіраўніцтва рабочае клясы сялянствам.

На фабрыках і заводах гарадоў Беларусі рабочыя па сваёй уласнай ініцыятыве *выдзялялі сваіх таварышоў і пасылалі іх на перавыбары саветаў* за кошт саміх рабочых арганізацый. За рэдкім выключэньнем, выезды рабочых і шэф-

арганізацый у час перавыбараў на вёску прынесьлі вялізную палітычную і дзелавую карысьць, яны садзейнічалі яшчэ большаму замацаваньню змычкі гораду і вёскі—рабочых з працоўным сялянствам.

У гэту перавыбарчую кампанію мы ўдвайне пашырылі прадстаўніцтва ў сельсаветы: замест аднаго члена савету на 200 душ насельніцтва, мы выбіралі аднаго—на 100 душ, у выніку чаго *мы павялічылі армію членаў сельскіх і мястэчковых саветаў да 50.000 чалавек.* Сацыяльны і нацыянальны склад выбраных членаў саветаў у асноўным забясьпечвае дадзеныя партыяй дырэктывы ў час перавыбарчай кампаніі. Выбраных у саветы камуністых—8,7 проц., у мінулую кампанію 9,3 проц; камсамольцаў—8,6 проц., у мінулую камп.—9 проц. Тут трэба заўважыць, што хаця процант выбраных камуністых і камсамольцаў некалькі паніжаецца ў параўнаньні з мінулай кампаніяй, колькасьць выбраных камуністых і камсамольцаў *павялічваецца амаль у два разы* ў зьвязку з агульным павялічэньнем прадстаўніцтва ў саветы на сто працантаў.

Згодна вестак ад 488 сельсаветаў выбраныя падзяляюцца: сялян 91 проц. альбо менш на 0,2 проц., зьменшыўся ў складзе саветаў процант служачых з 2,5 да 1,9, саматужнікаў—з 1.0 да 0,8 проц., інтэлігэнтаў—з 2,0 да 1,9 проц. Разам з гэтым павялічыўся значна процант выбраных у саветы батракоў (на 1,4 проц.—з 1,1 пр. да 2,5 пр. або амаль у два з паловай разы); значна павялічылася колькасьць беднаты аслабанёнай ад падатку, якая па гэтых саветах складае 39,4 проц., а ў мінулую кампанію было—22,8 проц. Адначасна паменшылася ў складзе саветаў група сялян плацячых падатак да 10 руб. на душу з 72 проц. да 59,5 проц. і група, якая плаціць звыш 10 руб. на душу з 5 да 2,6 проц. У апошняй групе таксама ёсьць пераважная частка сераднякоў: 1,8 проц. плацячых на душу ад 10—15 руб.—0,6 проц., ад 15—20 руб., толькі 0,1 плацячых ад 20—25 і 0,1 проц. плацячых звыш 25 рублёў. Аднак, сярод выбраных мы маем і такіх 10 чалавек, якія плацяць падатку звыш 25 руб. на едака: у Рэчыцкім, Веткаўскім, Копыскім раёне па двух, у Вульскім, Уваравіцкім, Грэскім і Парыцкім раёне па аднаму ў раёне. Старшынямі па 401 сельсавету мы маем: камуністых—55,9, замест 33,7 проц. у мінулыя выбары, камсамольцаў—7,3—замест 5,9 проц. Старшыні сельсаветаў батракі і сельгасрабочыя даюць павялічэньне з 0,5 проц. у мінулым да 4,9 проц. у сучасныя перавыбары. Мы маем таксама *значнае павялічэньне* проценту камуністых, камсамольцаў, рабочых, батракоў і беднаты ў складзе прэзыдыўмаў новых сельскіх саветаў.

Асаблівую ўвагу заслугоўваюць вынікі выбараў у саветы жанчын з тае прычыны, што ў мінулую кампанію мы ня толькі не змаглі ў зьвязку з ростам актыўнасьці працоўных жанчын павялічыць процант выбраных у саветы, а нават мелі значнае паніжэньне агульнага проценту.

*Зараз мы маем выбраных жанчын у саветы 19,4 проц.*, а ў мінулую кампанію толькі 7,2 проц.: павялічэньне на 12,2 проц. У складзе старшынь сельсаветаў мы зараз маем жанчын 5,6 проц., у той час як у мінулым мы мелі толькі 0,8 проц., у складзе членаў прэзыдыўмаў па 401 сельсавету жанчын 14,6 проц., замест—3,6 проц. у мінулым. Сацыяльны склад выбраных жанчын зьяўляецца таксама упаўне здавальняючым. *Такім чынам можна лічыць, што ў адносінах да ўцягненьня праз выбары жанчын у саветы, дырэктыва Партыі ў асноўным выканана.* Зараз неабходна павесьці штодзённую ўпартую выхаваўчую працу сярод выбраных у саветы жанчын з тым, каб выбраныя работніцы, батрачкі, беднячкі і актывісткі серадначкі *сапраўды былі* непасрэднымі ўдзельнікамі працы саветаў па сацыялістычнаму будаўніцтву. Нацыянальны склад выбраных саветаў бязумоўна адпавядае нацыянальнаму складу насельніцтва БССР. Пры гэтым працоўныя нацменшасьцяй Беларусі праявілі вялікую актыўнасьць і клясавую сьвядомасьць як у мястэчку, так і ў вёсцы.

Характарызуючы сацыяльны склад новых сельсаветаў нельга абыйсьці памылак, якія былі дапушчаны ў шэрагу месц у адносінах да серадняка. Яшчэ з пачатку кампаніі пры падрыхтоўцы кандыдатур было заўважана шэраг выпадкаў *скрыўленьня партыйнай лініі ў* адносінах да серадняка, што праяўлялася ў недапушчэньні актывіста-серадняка на бедняцкія сходы, у недастатковым прадстаўніцтве ў саветах сераднякоў і г. далей. Пасобныя партячэйкі і сходы беднаты забыліся аб тым, *што серадняк быў і ёсьць* асноўнай працоўнай масай вёскі і што ён павінен разам з бедняком заняць адпаведнае месца ў сельсавеце. Дапушчаныя ў гэтым сэнсе памылкі своечасовай дырэктывай ЦК нашай партыі і партарганізацыямі на мясцох былі ў большасьці зьліквідаваны.

Колькасьць пазбаўленых выбарчых правоў павялічылася з 1,4 пр. да 2 проц. за кошт лепшага праведзеньня закону, лепшага складаньня сьпіскаў выбаршчыкаў, калі ня лічыць паасобных памылак і такога галавацяпства, як у Высачанскім раёне, дзе былі пазбаўлены выбарчага права старыкі і старухі, якім мінула за 60 год.

Дзякуючы правільнаму кіраўніцтву партыі ў справе перавыбараў саветаў і сацыялістычнага будаўніцтва наогул, ня гледзячы на ўздым кулацкай актыўнасьці, ня гледзячы на ўсе нашы цяжкасьці, асноўная *маса вёскі—беднота і серадннякі—ітла разам з пралетарыятам,* за камуністычнай партыяй, пад яе кіраўніцтвам ва ўвесь час перавыбараў.

У гэтую перавыбарчую кампанію, партыя выступіла перад масаю выбаршчыкаў *з шырокай праграмай сацыялістычнага будаўніцтва*: індустрыялізацыі краіны, кааперавання і калектывізацыі, палепшаньня дзяржаўнага апарату, далейшага наступленьня на капіталістычныя элемэнты, замацаваньне саюзу рабочае клясы з сялянствам пад кіраўніцтвам пралетарыяту.

Гэтыя задачы, пастаўленыя нашай партыяй у час перавыбараў, *знайшлі поўнае падтрыманьне і ажыцьцяўленьне* як з боку пралетарыяту, так і асноўнай масы сялянства вёскі.

Вось галоўныя папярэднія вынікі справаздачна - выбарчай кампаніі сельсаветаў.

**А. Хацкевіч.**

28/II—1929 г.

**Бядняк, серадняк—памагай выбранаму табою савету, рабі заўвагі, калі будуць памылкі**

# За работу.

## Задачы выканкомаў у справе наладжаньня ў перавыбраных саветах практычнае работы.

Перавыбарчая кампанія саветаў Беларусі скончылася. Гэтая кампанія перавыбараў сельскіх і местачковых саветаў характэрна тым, што склад новых саветаў, з пункту погляду сацыяльнай прыналежнасьці, падабраны значна лепш, чым склад іх папярэдняга паўнамоцтва, што забясьпечвае больш правільнае захоўваньне клясавае лініі ў практычнай рабоце перавыбраных саветаў.

Гаворачы аб перавыбраных саветах належыць зауважыць і тое, што склад іх адноўлены ня менш, як на 70-80 проц. Тое самае можна сказаць і адносна сталых работнікаў саветаў: старшынь і сакратароў; аднаўленьне складу апошніх ня менш, чым у агульным складзе савет аў. Улічваючы тое, што склад новых саветаў павялічаны двойчы ў гэтым годзе, мы будзем мець каля 50.000 членаў саветаў, з якіх у першы раз далучацца да практычнай работы савета—каля 40.000 з лішкам. Той факт, што чатыры пятых з агульнага ліку членаў саветаў, а таксама і сталых работнікаў апошніх (старшынь, сакратароў) зьяўляюцца новымі людзьмі, якія маюць мала вопыту практычнае работы ў савеце—ставяць перад выканкомамі без'адкладную задачу дапамагчы толькі што перавыбраным саветам наладзіць гэтую работу. Што для гэтага трэба зрабіць? Як практычна выканаць пастаўленую задачу? Само сабой зразумела, што нельга даць такога рацэпту, які даў-бы магчымасьць ажыцьцявіць гэту задачу падрыхтоўкі членаў саветаў у „адначасьсе". На гэта трэба будзе аддаць шмат часу. Але-ж, каб дамагчыся палепшаньня работы нізавых органаў саветаў праз уцягненьне ў працу іх усяе многатысячнае арміі членаў, неабходна зараз-жа правесьці шэраг без'адкладных мерапрыемстваў.

Пачаць трэба з таго, каб прымацаваць на некаторы час да кожнага савету работніка раёну, альбо з акругі; на гэтых прымацаваных таварышоў ускласьці абавязак дакладна прыглядзецца да ўсяго складу савету з мэтаю праверкі, ці не пралезьлі ў саветы такія людзі, якія мала думаюць аб рабоце на карысьць усіх працоўных, а больш н пакояцца за свае скурныя інтарэсы. Гэтыя тыпы павінны быць выяўлены і разаблачаны перад масамі, чым і паралізуецца іх уплыў на саветы, пасьля чаго праз масы-ж адвесьці іх з саветаў.

Адначасова з правядзеньнем гэтае работы прыкамандыраваны да савету таварыш павінен дапамагчы савету наладзіць арганізацыйна-практычную працу Прэзыдыума, Пленуму Савета, аказаць дапамогу ў справе арганізацыі і ўцягненьня ў работу камісій вясковага актыву (усіх членаў савета, упаўнаважаных і работнікаў каапэрацыі, сяброў селькрэсткома, камсамольцаў, партыйцаў, дэлегатак і іншых актывістак-жанчын, вясковую інтэлігенцыю, усіх партызан, дэмабілізаваных чырвонаармейцаў і інш.), практычна навучыць, як складаць плян працы савета і камісіі.

Другім мерапрыемствам павінна быць арганізацыя і правядзеньне па саветах нарад-курсаў усіх членаў саветаў, на якіх вычэрпваюча поўна прапрацоўваецца палажэньне аб саветах і камісіях пры іх; усім членам савету найбольш выразна выкладаюцца іх правы і абавязкі, лінія паводзін, як членаў савецкага воргану ўлады; на гэтых нарадах члены знаёмяцца канкрэтна з формамі тае практычнае работы, якую яны павінны будуць весьці кожны ў сваёй вёсцы па даручэньню прэзыдыуму, ці пленуму савета.

Так як гэтая праца займе значны час, то нарады-курсы трэба арганізаваць так, каб яны не адрывалі членаў ад сваей работы на доўгі час; лепш за ўсё нарады-курсы праводзіць шляхам некалькіх склікаьняў (на гадзін 5-6 у сьвяточныя дні). Ня будзе асобай бяды, калі гэтая работа і расьцягнецца на некаторы час.

Каб адразу правільна наладзіць работу перавыбраных саветаў, асабліва тых, дзе і сталыя работнікі зьяўляюцца новымі, Райвыканкомам належыць таксама без'адкладна правесьці нарады-курсы (2-3 дні) старшынь і сакратароў гэтых саветаў. На гэтых нарадах-курсах трэба практычна праінструктаваць усіх новых работнікаў саветаў аб формах і мэтадах іх работы, канкрэтна азнаёміць іх з правамі і абавязкам саветаў, выцякаючых з палажэньня аб саветах; навучыць іх таму, як павінны саветы ўвязваць сваю работу з другімі арганізацыямі, як павінны саветы ажыцьцяўляць сваю кіруючую ролю і асабліва дакладна растлумачыць новым работнікам саветаў лінію паводзін іх у справе захаваньня клясавай лініі і савецкай дэмакратыі ў рабоце, ажыцьцяўленьня лёзунгу крытыкі і самакрытыкі навокал дзейнасьці савета.

У скончаную перавыбарную кампанію саветаў мы маем значнае павялічэньне жанчын у складзе саветаў (каля 20 проц.) наогул, а таксама і ў складзе сталых работнікаў саветаў. Трэба забясьпечыць дапамогаю і гэтую групу склада саветаў у напрамку правядзеньня з імі асобна работы па азнаямленьню іх з правамі і абавязкамі, як членаў савета, з палажэньнем савета, азнаёміць з формамі практычнае работы членаў-жанчын у савеце.

— Выканкомы і саветы павінны асабліва ўважліва аднесьціся да справы падрыхтоўкі жанчын—членаў саветаў дапамагаючы аўладаньню імі даручанай работы і тым самым забясьпечваючы замацаваньне на далейшы час посьпеху ў справе ўцягненьня жанчын у саветы і савецкае будаўніцтва.

Дамагаючыся найлепшага і скарэйшага наладжаньня работы ў перавыбраных саветах, Выканаўчыя камітэты (акруговыя і раённыя) павінны ўзмацніць, асабліва ў бліжэйшы бягучы пэрыяд часу, жывое практычнае інструктаваньне саветаў. Само сабою зразумела, што працу лепей наладзіць той савет. у якім інструктар РВК, ці АВК альбо іншы работнік пабудзе тыдзень—другі і дапаможа непасрэднаю працаю гэтаму савету. На такі шлях выканкомы павінны стаць зараз-жа.

Апрача гэтага выканкомы павінны больш шырока практыкаваць выязды ў саветы для правядзеньня пасяджэньняў сваіх прэзыдыумаў і пленумаў, што будзе спрыяць накапленьню вопыта работнікамі саветаў у кіруючай працы.

*А. Л.*

# 8-е сакавіка і работа савету сярод жанчын

8-га сакавіка ў нас стала днём праверкі і падліку посьпехаў у справе ўцягненьня працоўных жанчын у сацыялістычнае будаўніцтва.

Падводзячы ітогі гэтага году, мы павінны адзначыць, што гэты год адрозьніваецца выключным ростам сувязі партыі з масамі работніц і сялянак. Асабліва гэта паказала разгорнутая кампанія перавыбараў саветаў.

Мы наглядаем у кампаніі перавыбараў саветаў значны рост актыўнасьці жаночых працоўных мас. Калі на выбарчых сходах на вёсцы ў мінулую кампанію мы мелі ўсяго 26,4 проц. выбаршчыц па БССР, дык у гэтую кампанію перавыбараў мы маем сярэдні процант удзелу 42—45 проц. Па некаторых вёсках і раёнах гэты процант удзелу падымаўся да 60—70—80 проц. Самі сялянкі, асабліва бядначкі і серадначкі, на выбарчых сходах праявілі значна большую актыўнасьць, чымся ў мінулыя гады.

Так, з Быхаўскага раёну паведамляюць: „на ўсіх сходах была праяўлена вялікая актыўнасьць з боку жанчын, на кожным сходзе было шмат выказваючыхся, каля 25—30 проц. у сярэднім. Некаторыя жанчыны выказваліся па 2—3 разы. Сялянкі выступалі з дзелавой крытыкай саветаў, прымалі актыўны ўдзел у падборы кандыдатур".

З Віцебскай акругі пішуць: „Бядначкі сябе добра трымалі, праводзілі добра клясавую лінію. Седзячы побач на сходах з кулачкамі, яны гаварылі, што ня трэба абіраць кулакоў, толькі беднякоў".

Перавыбары сельсаветаў паказалі, што сялянкі загаварылі выразна і ясна аб сваіх патрэбах і запатрабаваньнях і па-дзеламу ўцягнуліся ў разгорнутую партыяй крытыку работы саветаў.

Мы ўцягнулі за гэты год значна большую масу сялянак у саветы ў якасьці членаў і кандыдатаў сельскіх саветаў і рэвізыйных камісій. Па 1.324 сельсаветам абрана 7.774 жанчыны членамі сельсаветаў, якія складаюць 19,4 проц. да агульнага ліку членаў. У мінулым годзе мы мелі толькі 7,2 проц. жанчын у сельсаветах. Яшчэ не падлічаны кандыдаты і члены рэвіз. камісій, якія складаюць па Беларусі дзесяткі тысяч жанчын. Узьняўся таксама процант жанчын у местачковых саветах, па 30 мястэчкам абрана 238 жанчын альбо 25,1 проц. да агульнага ліку (у мінулым годзе было 12,3 проц.). Колькасна лік жанчын членаў сельсаветаў узрос у 10 раз.

У сувязі з гэтым перад намі паўстае вельмі адказная задача—замацаваць гэты зноў абраны савецкі актыў на рабоце. Ад таго, як будуць работаць у саветах гэтыя тысячы жанчын—членаў саветаў, залежыць і далейшы рост уцягненьня працоўных жанчын у саветы. Мы павінны паставіць сабе задачай усю гэтую тысячную масу актывістак уцягнуць, як ва ўсю практычную работу саветаў на мясцох, так і сумець зрабіць іх ініцыятарамі і праваднікамі праз саветы пытаньняў працы, быту, культуры і вылучэньня шырокіх мас працоўных жанчын. Трэба ня толькі запрашаць жанчын членаў сельсаветаў на сходы пленуму савету, але нагрузіць іх адпаведнай работай, дапамагчы ім у рабоце, навучыць працаваць так, каб сапраўды адбіваць інтарэсы шырокіх батрацка-бядняцкіх і серадняцкіх мас.

Трэба зараз-жа арганізаваць работу з членамі саветаў, арганізаваць кароткатэрміновыя курсы, наладзіць ліквідацыю няпісьменнасьці сярод іх; склікаць час ад часу канфэрэнцыі і нарады. За гэта акруговыя і раённыя Выканаўчыя камітэты павінны ўзяцца зараз-жа. Жаночы актыў патрэбна ўсяляк падымаць і выхоўваць для большага прасоўваньня на кіруючую работу ў саветах, дапамагчы вылучэнкам узмацніць сваю сувязь з масамі. Трэба заняцца вывучэньнем жаночага актыву і выбраць тых, якіх мы можам вылучыць на сталую работу ў саветах і коопэрацыйных арганізацыях.

Мы маем ужо некаторыя посьпехі і па лініі вылучэньня. Замест 17 старшынь сельсаветаў мы маем у гэтым годзе больш сотні (канчатковых вестак яшчэ няма), маем ужо 6 старшынь Райвыканкомаў, не мелі ні аднаго старшыню Гарсавету—цяпер маем старшынь у 2-х акруговых і некалькіх неакруговых гарадох.

Сьвяткаваньне Міжнароднага Жаночага Комуністычнага Дню праходзіць у разгары кампаніі перавыбараў гарсаветаў.

Сумець скарыстаць 8-е сакавіка для мабілізацыі шырокіх мас працоўных жанчын вакол перавыбараў гарадзкіх саветаў—наша асноўная задача.

Першыя весткі кажуць аб неадпаведнасьці паміж ростам актыўнасьці сялянак і працоўных жанчын гораду. Асабліва адстаюць неарганізаваныя пласты жонак рабочых і служачых. Неадпаведнасьць ёсьць таксама паміж яўкай работніц і выбарамі іх у савет.

*Неабходна падцягнуць актыўнасьць працоўных жанчын гораду. Неабходна больш работніц абіраць у гарсаветы.* 25 проц. нас задаволіць ня могуць. Мы павінны ў гэтым годзе мець ня менш 30 проц. работніц і жонак рабочых у саветах.

8-е сакавіка павінна дапамагчы падняць актыўнасьць адстаўшых і выкаваць актыў у барацьбе за канчатковую перамогу сацыялізму ў нас і ва ўсім сьвеце.

**Крэмер.**

# 8 сакавіка і шлях вызваленьня вясковай жанчыны.

Большая частка насельніцтва Савецкай Беларусі з надзвычайнай радасьцю сустракае чарговы міжнародны жаночы дзень як сьвята разьняволеньня жанчын. Дзякуючы кіраўніцтву Ленінскай Камуністычнай Партыі бальшавікоў жанчына ў нашай краіне стала на шлях сацыялістычнага будаўніцтва побач з мужчынам, як раўнапраўны член грамады. У савецкай краіне Кастрычнік зьнішчыў былы жаночы прыгон, даў магчымасьць арганізоўваць пляцоўкі, яслі і выхавачыя дамы для дзяцей, тым самым аслабаняючы жанчыну ад штодзённых сямейных клопатаў. З кожным годам пашыраецца будаўніцтва бытавых устаноў, якія прымаюць дзяцей на агульна-грамадзкае ўтрыманьне і выхоўваюць будучых будаўнікоў сацыялізму. Такое выхаваньне стаіць як галоўная задача перад нашай савецкай грамадзкасьцю; у значнай меры пасьпяховасьць нашага сацыялістычнага будаўніцтва будзе залежаць ад правільнага і добраякаснага выхаваньня нашае дзетвары, нашае моладзі, на якую мы ўскладаем свае надзеі ў будучым.

У нашай штодзённай працы па палепшаньню жыцьця і ўцягненьню ў сацыялістычнае будаўніцтва працоўных жанчын неабходна больш увагі зьвярнуць на вясковых бядначак і серадначак, якія яшчэ і ў сучасны момант жывуць у надзвычайна цяжкіх умовах. Яны прыкуты да

беднык індывідуальных гаспадарак і зьвязаны прыватнай уласнасьцю, што прымушае сялянку працаваць без усялякіх норм і аховы.

Калі паглядзець і пералічыць тыя абавязкі, якія выконвае вясковая жанчына, то робіцца аж сумна і цяжка, бачучы колькі непасільнай і ня культурнай працы, ярмом цісьне шыю вясковай жанчыны.

Жанчына на вёсцы тэкстыль-сындыкат. Яна выробляе сыравіну, як лён сее яго, выбірае, абівае, сьцеле, мне, трэпле, чэша, прадзе, тчэ беліць. Вось колькі разоў яна павінна трымаць у сваіх руках сыравіну, пакуль прывядзе яго ў палатно. А колькі на гэту прымітыўную працу патраціць энергіі, колькі разоў мяліцай адаб'е рукі, а колькі паглытае пылу, колькі прыме сухоты, седзячы на пражы і тканіне. Каб вызваліць жанчыну-сялянку ад гэтае цяжкае работы, неабходна замяніць усю прымітыўную індывідуальную працу — машыннаю калектыўнаю апрацоўкаю, толькі ў калектыве знойдзе аслабаненьне жанчына ад непасільнай працы.

Другая праца гэта гадоўля жывёлы. Усім вядома, што сельская гаспадарка патрабуе унівэрсалаў, якія-б ведалі ўсе галіны сельскае гаспадаркі:—гэта даглядзець глебу, гадаваць карову, цяля, сьвіньню, парася, авечку, курыцу. Усё патрабуе сьпэцыялізацыі, а ў нас усё робіць жанчына, калі яна не даглядзіла, то і парасё і ягнё нават і цялё зьмерзьне ў хляве. Правільную жывёлагадоўлю забясьпечвае калектыўная гаспадарка.

А як выхаваньне дзяцей праходзіць? Умовы выхаваньня дзетвары на вёсцы—кепскія; яны выхоўваюцца ў большасьці без належнага догляду і дзякуючы гэтаму нават ня мала дзяцей калечыцца. Цэлы шэраг прыкладаў гавораць, што нам патрэбна дапамагчы жанчыне, каб у кожнай вёсцы была пляцоўка, былі ясьлі, была дзіцячая кансультацыя, а гэта можна зрабіць цераз жаночы актыў, пры дапамозе яму ўсей нашай грамадзкасьці. Поруч з гэтым растлумачыць жанчыне, што палепшаньне быту яе толькі ў калектывізацыі і каапэраваньні сельскай гаспадаркі. Гэта дасьць магчымасьць жанчыне і дзеля культурнага жыцьця

Неабходна ўдзяліць больш увагі працы сярод жанчын, асабліва там, дзе няма дэлегацкага сходу.

Усе павінны прыйсьці на дапамогу жанчыне.

*Масальскі.*

# Як праходзіць конкурс на мясцох.

Тэрмін для правядзеньня ўнутрыакруговага конкурса на лепшыя сельскі і местачковы саветы з камісіямі і сэкцыю Гарсавета фармальна скончыўся.

Аднак-жа, нельга сказаць, што конкурская работа на мясцох закончана, наадварот, толькі ў апошнія часы мы і назіраем паступовае ажыўленьне конкурснае кампаніі. Да інакш і не магло быць, калі ўлічыць тое, што арганізацыйна-падрыхтоўчая работа да конкурсу ў акругах і раёнах пачыналася не ўсюды адначасова, у адных акругах (Полацк) у сьнежні, у другіх— у студзені; ёсьць раёны, у якіх камісіі садзейнічаньня арганізаваны былі ў лютым м-цы (Рэчыцкі Гарсавет 8-II), у Высачанскім раёне ў 20 лічбах лютага м-цу не арганізаваны камісіі). Само сабою зразумела, што дзякуючы гэтаму вынікі работы па правядзеньню конкурсу разгортваліся недахватна шпарка, што конкурсную кампанію на мясцох трэба разгарнуць шырэй, яшчэ больш ажывіць.

Што гэта так, можна заключыць з наступнага: на 1-III вынесена на конкурс па ўсіх акругах толькі 84 савета, што складае 5,6 проц. да агульнага ліку сельскіх і местачковых саветаў. Пры гэтым, па розных акругах ахоп саветаў конкурсам надта разнастайны: напрыклад, Менскай—25 сав., Бабруйскай ахоплена 15 сав., у той час, як па Магілёўскай, Полацкай па 10 саветаў, Аршанскай—8 саветаў, Віцебскай, Гомельскай—6 саветаў, а Мазырскай толькі—3.—Яшчэ горш абстаіць да гэтага часу справа па абгляду праз конкурс работы камісій. Так, з усіх конкурсных матар'ялаў, зьмешчаных у цэнтральных і мясцовых газэтах, карэспандэнцый аб рабоце камісіі толькі адна (па Мазыршчыне); гэта кажа за тое што на мясцох аб вынясеньні на конкурс камісій забыліся і камісіі, такім чынам, выпалі з гэтае кампаніі.

А між тым, работа камісіі, як найлепшая форма масавае працы саветаў, павінна была-б заняць у конкурсе ня менш значнае месца, чым і самі саветы. Вось чаму патрэбна акруговым і раённым конкурсным камісіям бяз адкладна нагнаць упушчаны час і вынесьці на грамадзкі агляд праз конкурс работу многіх камісій сельскіх і местачковых саветаў.

— Што датычыцца праверкі і агляду праз конкурс работы сэкцый Гарадзкіх саветаў, то па розных акругах ёсьць таксама значная разбежка. Большую працу ў гэтай справе правялі толькі Бабруйская акруга. якая ўжо вынесла на конкурс 10 сэкцый) і Віцебская (7 сэкцый). Слаба яшчэ разгорнуты агляд сэкцый праз конкурс па Менскай акрузе (3 сэкцыі); Магілёўская і Полацкая акругі да гэтага часу (18-II) не аднае сэкцыі ня прапусьцілі на конкурсны агляд. Няма ніякіх вестак аб конкурсе сэкцый па Гомельшчыне Добрушскі гарсавет (Гомельшчына) *толькі на пасяджэньні ад 11-II г. г. вынес пастанову: „З гэтага дня безадкладна пачаць работу па агляду працы Савета наогул і асабліва работы па вынясеньню сэкцый на конкурс“*. Камісія садзейнічаньня конкурсу пры Гомельскім гарсавеце, як адзначана ў пастанове акруговай камісіі, таксама не працавала да паловы лютага. З гэтага нельга не зрабіць вываду, што па Гомельшчыне конкурсная работа на лепшыя сэкцыі (а таксама і саветы з іх камісіямі) знаходзіцца не ў пашане.

Гаворачы аб конкурсе сэкцый гарсавета, трэба адзначыць тое, што усе 27 вынесеных да гэтага часу на конкурсны агляд сэкцыі зьяўляюцца сэкцыямі выключна гарсаветаў акруговых гарадоў. Што-ж датычыцца сэкцый гарсаветаў неакруговых гарадоў, то яны зусім не ахоплены конкурсам (выпалі з конкурсу, як і камісіі пры сельскіх і местачковых саветах).

Гэтыя папярэднія вынікі конкурсу на лепшыя сельскі і местачковы саветы з камісіямі і лепшую сэкцыю гарсавета па акругах сьведчаць: а) што ахват конкурсным аглядам саветаў, камісій і сэкцый надта нязначны; б) тэмп разгортваньня конкурсу па акругах зусім павольны; в) не даацэньваецца значэньне камісій пры сельскіх і местачковых саветах, чаму здарылася выпадзеньне іх з конкурсу. У адпаведнасьці з гэтым конкурсным камісіям (акруговым і раёным) трэба прыняць усе меры, каб ахапіць конкурсным аглядам па мажлівасьці больш сельскіх і местачковых саветаў (а не абмяжоўваць, як гэта і ў некаторых раёнах практыкуецца, папярэднім вызначэньнем невялікае колькасьці саветаў для конкурснага абгляду). Таксама без адкладна трэ-

ба шырока разгарнуць вынясеньне на конкурсны агляд работы камісій і секцый пры саветах, улічваючы тое, што гэта форма масавае работы саветаў патрабуе найбольшае ўвагі ў сэнсе яе палепшаньня і далейшага ажыўленьня.

Адмоўным бокам у праходзячым конкурсе зьяўляецца тое, што агляд і апісаньне работы выносімых на конкурс саветаў з камісіямі і сэкцый у пераважнай долі праводзіцца адналічна работнікамі савецкага апарату ў меншай меры рабселькорамі, у той час, як праверка і кантроль мас у гэтай справе зусім мала дзе наладжан. Усе тыя конкурсныя карэспандэнцыі, якія зьмешчаны да гэтага часу ў мясцовым і цэнтральным друку, пісаны адналічна; карэспандэнцый па конкурсу на лепшыя сэкцыю, камісію і савет ад калятываў рабочых, грамадзкіх арганізацый, сходаў ці груп сялян—няма. Усё гэтае падкрэсьлівае той факт, што конкурсная кампанія ня носіць характару шырокай масавасьці, чаму ў значнай меры траціцца каштоўнасьць гэтае работы. На далейшы час усім конкурсным камісіям патрэбна выправіць адзначаную перашкоду і забясьпечыць усімі мерамі прыцягненьне саміх мас да конкурснага агляду.—Характарызуючы праходжаньне конкурсу нельга не зрабіць заўвагі адносна якасьці карэспандэнцый, апісваючых работу саветаў і секцый. Значная колькасьць зьмешчаных у друку конкурсных карэспандэнцый адрозьніваюцца тым недахопам, што зусім мала даюць канкрэтных фактаў, характарызуючых працу саветаў і сэкцый, і адначасова залішне перагружаюць артыкулы агульнымі разважаньнямі. Таксама ня мала ёсьць карэспандэнцый па зьместу надта сухіх, залішне сьціслых, у якіх зусім цяжка ўявіць сапраўдную работу вынесенага на конкурсны агляд савета, альбо сэкцыі ці камісіі.

Стымуляваньне саветаў, камісій і сэкцый, шляхам прэміраваньня іх паконкурсу за лепшую пастаноўку работы, месца арганізавалі слаба; некаторыя акругі падышлі да справы прэміраваньня па конкурсу лепшых саветаў з камісіямі і сэкцый выключна з фармальнага боку: гэта выцякае з памеру тых сродкаў, якія адпускаюцца на прэміраваньне; так, напр., Аршанскі АВК—адпусьціў—145 руб., Полацкі АВК—50 руб., (на 4 прэміі); часта акругі ніякіх покуль што сродкаў для прэміраваньня ня вызначылі (Гомельская, Бабруйская, Віцебская акругі). Вядомая рэч, што прэмія у 5-10 руб. па конкурсу за лепшыя савет, сэкцыю ці камісію занадта мізэрна.

Праўда, акрвыканкомы абмяжованы ў сродках бюджэтнай дысцыплінаю, але-ж выхад можна было знайсьці, прыцягнуўшы да ўдзелу адміністрацыйныя, гаспадарчыя, гандлёвыя і іншыя ўстановы; напр., кааперацыя можа выдзеліць некаторыя сродкі для прэміраваньня камісій і сэкцый каапэрацыйна-гандлёвых; органы зямельныя, сельскагаспадарчая каапэрацыя, даць сродкі для прэміраваньня с.-гаспадарчай камісіі і г. д.

— Ворганы друку не ўдзяляюць у дастатковай меры ўвагі конкурсу, у газэтах зьмяшчаецца далёка ня ўвесь конкурсны матар'ял; значная колькасьць конкурсных заметак залежваецца ў рэдакцыях газэт.

Грамадзкія арганізацыі (прафсаюзы, камсамол, крэсткомы, шэфскія арганізацыі, дэлегацкія сходы) і ведамства уцягваюцца у конкурсную кампанію яшчэ надта слаба; у большасьці выпадкаў удзел іх абмяжоўваецца выданьнем па нісходзяшчай лініі цыркулярных паказаньняў. Праверкі выкананьня гэтых паказаньняў не практывалася.

**А. Лукашэвіч.**

# За дасканалую выбарчую інфармацыю і статыстыку.

Вучот—гэта сацыялізм. ЛЕНІН.

Перавыбарчая кампанія, як адна з найбольш масавых кампаній па аб'ёму і найбольш выразна палітычная па зьместу, асабліва з моманту пераходу на рэйкі мірнага сацыялістычнага будаўніцтва, займала і з кожным разам усё больш займае выдатнейшае месца ў жыцьці нашае Савецкае краіны. Усе тыя новыя пытаньні і задачы, што паўстаюць у выніку нашага прасоўваньня па шляху сацыялістычнага будаўніцтва, нашыя дасягненьні, цяжкасьці і хібы, працэсы клясавых узаемаадносін і барацьбы—усё гэта, як нельга больш яскрава, як нельга больш выразна адлюстроўваецца ў працэсе падрыхтоўкі і правядзеньня справаздач перавыбараў саветаў.

Пэрыяды перавыбараў—гэта моманты найбольш інтэнсыўнага і чоткага біцьця палітычнага пульсу ўсяе краіны саветаў наогул, кожнае сацыяльнае групы і праслойкі ў паасобнасьці.

Вось гэты люстравы адбітак, гэты пульс жыцьця, што даецца нам перавыбарамі, фіксуецца праз выбарчую статыстыку, вучот і інфармацыю. Будзе ён адпавядаць сапраўднасьці—правільна будуць зроблены вывады, беспамылкова можна будзе расставіць кіруючыя верставыя слупы на чарговым кавалку шляху нашага гаспадарчага і культурнага будаўніцтва. Няўважлівы падлік і падагульваньне ўсіх момантаў выбарчай кампаніі нямінуча дадуць скажоны яе малюнак, вельмі ўскладняць і зробяць больш цяжкім правільнае вызначэньне шляхоў нашага сацыялістычнага будаўніцтва. Зусім слушная заўсёды правільнасьць гэтага палажэньня набывае асаблівейшую важнасьць у бягучую перавыбарчую кампанію, калі супраціўленьне выціскаемых пасьпяховым сацыялістычным наступам з жыцьцёвае гарэны кулацка-нэпманскіх, клерыкальных і ўсіх іншых варожых сацыялізму элемэнтаў, набыло вельмі значную вастрату, даходзячы часам да бясьсільнага шаленства і тэрору, калі ў выніку шпаркага росту мы ў некаторых галінах стаімо перад часовымі цяжкасьцямі.

Вось чаму ў дадзеных да пачатку гэтае кампаніі партыйных і Урадовых дырэктывах, а таксама ў дырэктывах, якія даваліся ўжо ў працэсе праходжаньня самое кампаніі рашуча і неаднокраць падкрэсьлівалася неабходнасьць дасканалае пастаноўкі выбарчае справаздачнасьці статыстыкі і інформацыі, на падставе поўнага вучоту і абавязковасьці, хуткае, сваечаснае падачы гэтых матар'ялаў вышэйшым органам.

Як-жа былі выкананы гэтыя дырэктывы? Бязумоўна, значна лепш, чымся ў мінулыя кампаніі, падлічаны былі, як выбаршчыкі, так і пазбаўленыя выбарчых правоў. Зараз яшчэ няма канчатковых лічбаў, але і папярэднія ўжо зусім яскрава аб гэтым сьведчаць. Так па Аршанскай акрузе ў мінулую кампанію было падлічана 248.743 выбаршчыкі у гэтую 260,962; па Гомельскай—у мінулую кампанію было 242.247, а зараз 278.669; па Мазырскай у мінулую кампанію падлічана 150.919 выбаршчыкаў, у гэтую—162,300; па Менскай — у мінулую кампанію—

# Палажэньне аб сельскіх сходах.

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт БССР VIII-га скліканьня на III-й сэсіі ў пастанове па дакладу аб масавай рабоце саветаў адзначыў, што надзвычайна вялікія задачы, якія стаяць перад краінай ў справе далейшага замацаваньня дыктатуры пралетарыяту, замацаваньня саюзу рабочае клясы з сялянствам і разгортваньня сацыялістычнага будаўніцтва, могуць быць пасьпяхова вырашаны толькі пры шырокім удзеле працоўных у штодзённай, практычнай рабоце саветаў. Побач з гэтым, Цэнтральны Выканаўчы Камітэт канстатаваў, што масавая работа сельскіх саветаў, ня гледзячы на яе агульнае палепшаньне, яшчэ цалкам не разьвязвае задач, якія пастаўлены перад саветамі; што сельскія саветы не зьвяртаюць належнае ўвагі на асноўныя формы масавай работы. На вёсцы асноўнымі формамі масавай работы зьяўляюцца камісіі пры сельскіх саветах, пленумы сельскіх саветаў і сельскія сходы.

Калі ў справе арганізацыі камісій пры сельскіх саветах, вызначэньня кола іх праў і абавязкаў, няма спрэчак, а таксама няма спрэчак і ў справе правядзеньня пленумаў сельскіх саветаў, дык ў справе арганізацыі сельскіх сходаў да гэтага часу меліся толькі агульныя дырэктывы і ня было ніякага канкрэтнага закону. Сельскія сходы існуюць сотні гадоў. Засталіся яны існаваць і пасьля Кастрычнікай Рэвалюцыі, але іх структура зьмянілася, зьмяніся мэты сходаў, кола разглядаемых пытаньняў, роля іх ў дзяржаве і г. д. У той-жа час закону, які вызначаў бы парадак і формы дзейнасьці сельскіх сходаў ня было.

У палажэньні аб сельскіх саветах ня былі дакладна высьвятлены ўзаемаадносіны сельскіх саветаў і сельскіх сходаў, чаму, зразумела, сельскія саветы, разгортваючы масавую работу, ня мелі магчымасьці скарыстаць, як сьлед, сельскія сходы.

Роля сельскіх сходаў пры Савецкай уладзе, на працягу нязначнага часу зьмянялася. Напрыклад, па палажэньні аб сельскіх саветах БССР 1922 году, працоўныя паселішчаў, у якіх было менш 400 жыхароў і ў якіх, з гэтае прычыны, не маглі арганізоўвацца сельскія саветы, вырашалі пытаньні кіраўніцтва на агульных сходах выбаршчыкаў (увага да арт. 8). Гэтае правіла адпавядала 57 арт. Канстытуцыі РСФСР 1918 г. і рабіла, такім чынам, сельскія сходы першымі нізавымі органамі Савецкай улады. Але ў той жа час сельскія сходы ў паселішчах, у якіх былі сельскія саветы, зьяўляліся арганізацыямі, вырашаўшымі не пытаньні кіраўніцтва, а толькі гаспадарчыя пытаньні. Узаемаадносіны сельскіх сходаў з сельскімі саветамі ня былі вызначаны і таму назіралася надзвычайная стракатасьць у розных мясцовасьцях. Былі мясцовасьці, дзе сельскія сходы стаялі над сельскімі саветамі і наадварот.

У палажэньні аб сельскіх саветах БССР 1924 года было толькі сказазана, што сельскія саветы павінны „прыцягваць працоўныя масы да справы савецкага будаўніцтва“ (п. „в“ арт. 9-га). Мэтады і формы гэтага прыцягненьня не былі паказаны ў палажэньні.

У 1925 годзе пры Прэзыдыуме ЦВК Саюзу ССР была склікана Нарада па савецкаму будаўніцтву. Гэта Нарада сярод іншых пытаньняў разглядзела і пытаньне аб сельскіх сходах. У мэтах больш поўнага залучэньня працоўных мас вёскі у грамадзкую і дзяржаўную работу, а таксама ў мэтах упарадкаваньня гэтай работы і наданьня ёй плянамернасьці, Нарада па савецкаму будаўніцтву устанавіла парадак скліканьня сельскіх сходаў і парадак і формы іх дзейнасьці. Сутнасьць пастановы нарады у галіне палепшаньня работы сходаў, была наступная. Сельскія сходы склікаюцца сельскімі саветамі, або яго упаўнаважанымі па меры патрэбы, але не радзей аднаго разу ў месяц. На сельскіх сходах прысутнічаюць грамадзяне, якія карыстаюцца выбарчымі правамі. Сельскія саветы абавязаны былі добра прапрацоўваць пытаньні, якія стаяць у парадку дню сельскага сходу і паведамляць насельніцтву парадак дню не пазьней, як за тры дні да схода.

Агульнае кіраўніцтва сельскімі сходамі павінна было належыць сельскаму савету, які зьяўляўся адзіным кіруючым органам на сваей тэрыторыі.

Гэтая пастанова Нарады па савецкаму будаўніцтву была ўлічана ў Палажэньне аб сельскіх саветах БССР 1925 года, якое дзейнічае і зараз. Там, у п. „а“ арт. 9-га запісана, што сельскі савет „склікае агульныя сходы грамадзян і кіруе імі“. Вось гэты пункт арт. 9-га Палажэньня аб сельскіх саветах да апошняга часу і зьяўляўся усім канкрэтным законадаўчым матар'ялам у БССР па пытаньні аб сельскіх сходах. Такім чынам, да апошняга часу ў справе скліканьня і правядзеньня сельскіх сходаў, у справе выкананьня пастаноў сельскіх сходаў і моцы гэтых пастаноў, кворуму сельскіх сходаў і г. д. ня было яснасьці вызначаных норм. Пастановы Нарады па савецкаму будаўніцтву насілі дэкляратыўны характар і ў законадаўстве Саюза ССР, а таксама і ў законадаўстве БССР па пытаньнях сельскіх сходаў не знайшлі свайго адбітку, апроч паказанага арт. 9-га Палажэньня аб сельскіх саветах БССР у рэдакцыі 1925 года.

У сувязі з гэтым увесь час адчувалася патрэба ў выданьні такога закону, які канчаткова урэгуляваў-бы пытаньне аб сельскіх сходах. У выніку дакладу на 3-й сэсіі ЦВК БССР VIII-га скліканьня аб масавай рабоце саветаў, Прэзыдыум ЦВК даручыў Арганізацыйнаму Аддзелу Прэзыдыуму ЦВК распрацаваць праэкт палажэньня аб сельскіх сходах. Гэткае палажэньне было распрацавана Арганізацыйным Аддзелам, абмеркавана на Нарадзе з прадстаўнікамі НКЮ і НКУС і падана на разгляд і зацьверджаньне Прэзыдыуму ЦВК, які і зацьвердзіў яго 2 сакавіка 1929 г.

Палажэньне аб сельскіх сходах перш за ўсё ўстанаўляе мэты існаваньня сельскіх сходаў: уцягненьне працоўных ў вырашэньне пытаньняў дзяржаўнага і мясцовага будаўніцтва. Гэта значыць, што на сельскіх сходах магчыма абмяркоўваць ня толькі пытаньні данага паселішча, але і пытаньні дзяржаўнага, акругавага, раённага і сельскага значэньня. Закон адмовіўся даць вычэрпваючы пералік пытаньняў, якія можна разглядаць і вырашаць на сельскім сходзе. Па першае, даць такі вычэрпваючы пералік вельмі цяжка і па другое—гэты пералік абмяжаваў бы ініцыятыву месц. У залежнасьці ад належных да вырашэньня сельскага сходу пытаньняў вызначаецца і склад сельскага сходу, які можа яднаць грамадзян паасобных паселішчаў або грамадзян некалькіх паселішчаў (так званыя, аб'яднаныя сходы), або можа складацца з грамадзян адпаведных выбарчых вучасткаў. На сельскія сходы асобы, якія пазбаўлены выбарчага права, не дапушчаюцца.

Сельскія сходы склікаюцца выключна сельскімі саветамі, але ініцыятыва скліканьня сходаў не складае выключнай кампетэнцыі сельскіх саветаў: грамадзкія і прафесыйныя арганізацыі, калякты ўныя і савецкія гаспадаркі, якія знаходзяцца на тэрыторыі сельскага савету, сельскія рэвізійныя камісіі, а таксама грамадзяне данага сходу, маюць ініцыятыву скліканьня сходаў праз

сельскія саветы. Аб часе і месцы сельскага сходу і аб пытаньнях, якія будуць абмяркоўвацца на сходзе, сельскі савет павінен загадзя абвясьціць насельніцтву як праз сельскіх выканаўцаў, гэтак і шляхам вывешваньня на відных мясцох адпаведных аб'яў. У тэрміновых выпадках сельскі савет можа склікаць сход і без папярэдняга абвяшчэньня парадка дню. Парадак дню, які прапанаваны сельскім саветам, сельскі сход можа дапаўняць. Кворум сельскага сходу ўстаноўлены ў разьмеры 35 проц. усіх грамадзян данага сходу, якія маюць выбарчае права. Тут трэба адзначыць, што параўнаўча гэты кворум зьяўляецца высокім. У РСФСР, напрыклад, існуе кворум для сельскіх сходаў ў разьмеры 25 проц. усіх грамадзян, якія маюць права прымаць удзел у сходзе. Пры агульным напрамку на падвышэньне актыўнасьці працоўных, кворум у 35 проц. зьяўляецца больш сучасным і пастановы такіх сходаў—больш аўтарытэтнымі. Для сельскіх сходаў, якія склікаюцца са спэцыяльнымі мэтамі (правядзеньне самаабкладаньня, адкліканьне дэпутатаў, выбары саветаў, земляўпарадкаваньне), кворум устанаўляецца адпаведнымі законамі аб самаабкладаньні, земляўпарадкаваньні і г. д. Сельскі сход адчыняецца ад імя сельскага савету яго старшынёй, або упаўнаважаным на тое членам сельскага савету. Для правядзеньня сходу апошні выбірае прэзыдыум у складзе ад 3-х да 7-мі асоб і пытаньні вырашае адчыненым галасаваньнем большасьцю галасоў.

Сельскія саветы па тых пытаньнях, якія яны ставяць на абмяркаваньне і вырашэньне сельскага сходу, вылучаюць сваіх дакладчыкаў, а таксама прапрацоўваюць праэкты адпаведных пастаноў сходу. Па іншых пытаньнях дакладчыкамі на сходзе зьяўляюцца ініцыятары уносімых пытаньняў—паасобныя грамадзяне, прадстаўнікі вясковых арганізацый і іншыя. Прэзыдыум сельскага сходу вядзе пратакол пасяджэньня, у якім абавязкова адзначае колькасьць грамадзян, прысутнічаючых на сходзе. Пратаколы сельскіх сходаў, не пазьней 3-х дзён пасьля сходу, перадаюцца ў сельскі савет і толькі пасьля іх зацьверджаньня сельскім саветам, набываюць моц. Выкананьне пастаноў сходу адбываецца ў парадку, вызначаным сельскім саветам. У выпадку незацьверджаньня сельскім саветам пастаноў сходу, падачы скаргаў грамадзян, або арганізацый на гэтыя пастановы, усе спрэчкі і скаргі канчаткова разьвязваюцца раёнными выканаўчымі камітэтамі. Аб выканааьні пастаноў сельскага сходу сельскі савет паведамляе грамадзян на бліжэйшым сходзе. Такі зьмест зацьверджанага Прэзыдыумам ЦВК БССР 2-га сакавіка г. г. Палажэньня аб сельскіх сходах.

Палажэньне аб сельскіх сходах перш за ўсё пабудавана у поўнай адпаведнасьці з тым правілам, што сельскі савет, у межах дадзеных яму праў і паўнамоцтваў зьяўляецца вышэйшым органам улады на сваёй тэрыторыі. Гэтым прынцыпам прасякнута усё Палажэньне аб сельскіх сходах. Сельскі савет склікае сельскія сходы, адчыняе іх, зацьвярджае пастановы сходу, вызначае парадак іх ажыцьцяўленьня. На вымаганьні закона, каб пастановы сельскіх сходаў абавязкова зацьвярджаліся сельскім саветам, пасьля, чаго яны толькі і набываюць моц трэба застанавіцца.

У РСФСР у 1927 годзе было выдана таксама палажэньне аб сельскіх сходах і там абавязковага зацьверджаньня пастаноў сходу сельскім саветам няма. Там пастановы сельскіх сходаў набываюць моц адразу пасьля іх прыняцьця сельскім сходам і сельскі савет мае права толькі прыпыняць выкананьне пастаноў сходу з прычыны іх незаконнасьці, або нямэтазгоднасьці Такім чынам, дзякуючы гэткай пастаноўцы пытаньня, на тэрыторыі сельскага савету ёсьць элемэнты двaеўладзтва, ёсьць грамадзкая арганізацыя, пастановы якой па пытаньнях кіраўніцтва зьяўляецца абавязковымі. Пры такім становішчы, якое ўтварае палажэньне аб сельскіх сходах у БССР, няма ніякага двaеўладзтва, сельскі сход нявыходзіць з пад уплыву сельскага савету і апошні зьяўляецца сапраўды гаспадаром на сваёй тэрыторыі, а не выканаўчым органам сельскіх сходаў.

Праўда, палажэньне аб сельскіх сходах ускладае і новыя абавязкі на сельскія саветы. Калі да гэтага часу наглядаліся, як масавае зьявішча, выпадкі скліканьня сходу бяз ведама сельскіх саветаў, дык цяпер гэтай справай павінен ведаць толькі сельскі савет, які ад выпадковых скліканьняў сходаў павінен будзе перайсьці да сходаў сыстэматычных, плянавых. Адсуль вынікае неабходнасьць больш падрабязнага і ўважлівага вывучэньня жыцьця кожнага паселішча, усіх яго патрэб і запытаньняў і ўвязкі іх з дзяржаўнымі інтарэсамі і кампаніямі, што дасьць магчымасьць адразу правільна паставіць пытаньне аб прадуманым кіраўніцтве сходамі.

Адносна кіраўніцтва сходамі і ўцягненьня праз сходы працоўных мас вёскі ў дзяржаўнае будаўніцтва 3-я сэсія ЦВК БССР VIII-га скліканьня дала наступную дырэктыву: „Палепшыць кіраўніцтва сельскімі сходамі з максымальным выкарыстоўваньнем іх, як формы шырокага ўцягненьня бедняцка серадняцкіх мас ў справу гаспадарчага і культурнага будаўніцтва сяла, для чаго, пытаньні шырокага грамадзкага значэньня Прэзыдыумам сельскіх і местачковых саветаў, папярэдня падрыхтоўваўшы, ставіць на абгаварэньне сельскіх сходаў перад канчатковым вырашэньнем гэтых пытаньняў на пленумах саветаў".

Пасьля прыняцьця палажэньня аб сельскіх сходах перад мясцовымі работнікамі стаяць наступныя задачы: як мага больш шырока папулярызаваць сярод працоўных закон аб сельскіх сходах і на грунце гэтага закону разьвярнуць масавую работу на вёсцы, уцягнуць працоўных у сыстэматычную работу па сацыялістычнаму будаўніцтву.

На мясцох у справе яўкі на сходы ёсьць застарэлая хвароба—яўка на сход ня ўсіх грамадзян, якія маюць права прымаць удзел на сходзе, а толькі прадстаўнікоў паасобных двароў.

Калі гэтага зьявішча нельга будзе зьнішчыць адразу, дык сельскія сходы будуць часта зрывацца за адсутнасьцю кворума, так як з адных прадстаўнікоў двароў кворума ня будзе.

На гэты бок прыдзецца зьвярнуць асаблівую ўвагу. Падняць актыўнасьць яўкі на сходы дапаможа правіла аб абавязковым папярэднім абвяшчэньні насельніцтву часа і месца сходаў. У справе павышэньня актыўнасьці яўкі павінна адыграць ролю і тое, што сельскія сходы будуць рэгулярнымі, плянавымі. Зараз павінен быць спынен парадак, калі на тыдні склікалася па некалькі выпадковых сходаў па жаданьні прыяжджаючых асоб. Дзякуючы гэтаму ў насельніцтва прападала ахвота ісьці на такія „пэрманентныя" сходы.

Папулярызацыя закона, растлумачэньне яго работнікамі раённых выканаўчых камітэтаў насельніцтву, сталае інструктаваньне сельскіх саветаў аб ужываньні закона аб сельскіх сходах, дасьць магчымасьць сельскім саветам і раённым выканаўчым камітэтам, пры дапамозе сельскіх сходаў, разгарнуць сваю масавую работу, пашырыць кадры савецкага актыву і яшчэ больш уцягнуць працоўных вёскі ў сацыялістычнае будаўніцтва.

*А. Пятосін.*

# Задачы камунальных сэкцый гарсаветаў БССР.

Сэкцыі Камунальнай Гаспадаркі зьяўляюцца самымі найвялікшымі і арганізаванымі ва ўсіх без выключэньня Гарсаветах БССР. Удзел у працы гэтых сэкцый працоўных мас гарадоў надзвычайна вялікі. Гэткае становішча не зьяўляецца выпадковым і тлумачыцца тым, што камунальныя сэкцыі ў нашых умовах маюць пераважнае значэньне і дастатковасьць глебы для сваёй работы. Зараз мы застановімся на гэтай глебе. У сучасны момант муніцыпалізаваны жыльлёвы фонд у гарадох БССР складае 1.153.000 кв. мтр., ці 23 проц. усяго жыльлёвага фонду Рэспублікі. Гэты фонд мае вялікае значэньне для абслугоўваньня рабочага насельніцтва. Праўда, лепшая больш каштоўная частка фонду, 51,20 проц., пакуль што яшчэ занята ўстановамі і прадпрыемствамі, якія паступова вызваляюць яго праз пабудову для сваіх патрэб новых будынкаў. Такім чынам для рабочых жылішч астаецца толькі 48,8 проц., з якіх ў непасрэднай эксплёатацыі Камгасаў—14,2 проц. (164.000 квадратных мтр.) і 34,6 проц. ці 400.000 кв. мтр. перададзена Жакт'ам.

Увесь жыльлёвы фонд патрабуе значнай увагі і пільнага нагляду з боку камунальных сэкцый Гарсаветаў, у напрамку яго аднаўленьня, капітальнага і бягучага рамонту і належнага скарыстаньня.

Яшчэ большай увагі з боку камунальных сэкцый Гарсаветаў патрабуе новае жыльлёвае будаўніцтва па рабочаму, дзяржаўнаму, капэрацыйнаму і індывідуальнаму сэктарам, на якое затрачваюцца вялізныя сродкі і якое не заўсёды адпавядае усім запатрабаваньням рабочае клясы, да новага будаўніцтва.

На гэтае будаўніцтва ў 1928 годзе затрачаны наступныя сродкі: на дзяржаўнае—4.720.95 тысяч рублёў, каапэрацыйнае—1.672.40 тысяч руб., індывідуальнае—11 тыс. рубл. і мяркуецца затраціць па 5-гадоваму пэрспэктыўнаму пляну: па дзяржаўнаму сэктару—63.195 тыс. рубл., па каапэрацыйнаму—22.337 тыс. рубл., усяго па аграмаджанаму сэктару—85.532 тысячы рубл., па неаграмаджанаму сэктару—68.171 тыс. рубл., а па абодвых сэктарах—153.703 т. р.

Побач з жыльлёвым пытаньнем ідзе камунальная гаспадарка наогул, на якую паводле пяцігадовага пэрспэктыўнага пляну на 1928 29—1932-33 г. г. мяркуецца затраціць—38 265 тыс. рубл., з якіх на:

| | |
|---|---|
| Дабрабыт | 10.647 т. руб. |
| Зялёныя насаджэньні | 250 „ „ |
| Асьвятленьне вуліц і плошчаў | 468 т. руб. |
| Земляўпарадчыя і пляніровачныя работы | 771 т. руб. |
| Санітарна-гігіенічныя прадпрыемствы | 3.546 т. руб. |
| Каналізацыйныя і асенізацыйныя | 7.499 т. руб. |
| Транспарт | 6.799 „ „ |
| Вадаснабжэньне | 6.685 „ „ |
| Пажарную ахову | 880 „ „ |
| Іншыя камунальныя прадпрыемствы | 720 т. руб. |

Усе пералічаныя вышэй мерапрыемствы пасьпяхова будуць выкананы Гарсаветамі пры сталай, беспераппыннай актыўнай працы іх камунальных сэкцый, ад якіх залежыць папярэдняя рэальная распрацоўка камунальна-жыльлёвых плянаў, выходзячы з мясцовых умоў і асаблівасьцяў таго, ці іншага гораду, адшуканьне і належнае скарыстоўваньне грашовых сродкаў і інш., дзеля чаго камунальным сэкцыям у будучым неабходна:

Рашуча павесьці барацьбу за правідлова арганізаваную і правідлова сплянiраваную камунальную гаспадарку, як за адзін з мэтадаў ажыцьцяўленьня Саветаў і ўтварэньня аднаго з апорных слупоў у фундамэнце сацыялізму, г. зн. мэтазгоднага, эканамічна-спрыяючага і таннага будаўніцтва гарадоў, зьвязанага ў адно вуліцамі, вадаправодам, каналізацыяй, асьвятленьнем, дрэвапасадкамі і іншымі пабудовамі дабрабыту, чаму ў працы Сэкцыі патрэбна плянавасьць, яна патрэбна таму, што ў працягу, скажам, аднаго году усіх пытаньняў камунальнай гаспадаркі прапрацаваць нельга, пагэтаму ў гадовы плян трэба уносіць толькі тыя пытаньні, якія прызнаны наказамі выбіраццеляў, ці тыя, што вострa высоўваюцца момантам. Абмяжоўваючы кола пытаньняў, трэба кожнае пытаньне паставіць так, каб яго абмеркаваньне было досыць канкрэтным, каб нельга было абмяжоўвацца агульнымі славамі, каб рашэньне па кожнаму пытаньню адражала сапраўдныя прапановы і пажаданьні насельніцтва і укладвалася ў сыстэму рэальных фінансава-гаспадарчых мерапрыемстваў. Праца сэкцый не павінна абмяжоўвацца заслухоўваньнем справаздач адпаведных гаспадарчых органаў і аглядам самых дэпутатаў таго ці іншага мейрапрыемства на месцы, а яшчэ выліваецца ў агульныя пасяджэньні сэкцый з рабочымі і адпаведнымі кіраўнікамі і спэцыялістымі, на якіх абмяркоўваць і разьвязваць пытаньні ў адпаведнасьці з наяўчнасьцю рэальных магчымасьцяў да выкананьня. Надзвычайна важным зьяўляецца пытаньне аб падборы членаў сэкцый і аб іх нагрузцы. Звычайна праца зьяўляецца нявыстарчальнай з прычыны таго, што шэраг членаў сэкцыі слаба падрыхтаваны да прапрацоўкі пытаньняў, ці ня маюць фізычнай магчымасьці, як патрэбна падумаць і папрацаваць над пытаньнямі. Гэта, разумеецца, адно з самых цяжкіх пытаньняў. Другое пытаньне, гэта пытаньне аб рабочым, стала працуючым апараце сэкцыі. Сэкцыя павінна ставіць перад сабой задачу, каб кожны гаспадарчы орган або кіраўнік той ці іншай галіны гарадзкой працы і спэцыялістыя глядзелі на сэкцыю, як на разумнага кіраўніка, які ня умешваючыся у апэрацыйныя дробязі, засьцерагае ад магчымых бюракратычных ухілаў і скажэньняў, зьвязвае гаспадарчы орган, або кіраўніка тэй, ці іншай галіны гарадзкой работы з жыцьцём і запатрабаваньнямі працоўнага насельніцтва, кантралюючы работу ў інтарэсах агульнай справы, у інтарэсах мас.

Удзел сяброў і кандыдатаў Гарсаветаў апошніх выбараў, якія ўваходзілі ў склад камунальных сэкцый, у працы гэтых сэкцый, нельга лічыць здавальняючым, напрыклад: у Віцебску—70 проц., Барысаў—64 проц., у Воршы—60—65 проц. і Магілеву—35—40 проц. Бязумоўна, трэба узяць курс на тое, каб усе 100 проц. сяброў і кандыдатаў Гарсавету прымалі-б актыўны удзел у працы. Выключэньне можа рабіцца толькі у адносіне тых сяброў сэкцый, якія знаходзяцца у камандыроўках, адпусках і ня могуць зьяўляцца па іншым надзвычайна важным прычынам.

Аб усіх тых сябрах, якія бяз уважлівых прычын ня прымаюць удзелу ў працы сэкцый, сэкцыям належыць ставіць пытаньне перад Прэзыдыумам Гарсавету аб адкліканьні іх са складу Гарсавету выбаршчыкамі. Неабходна павялічыць удзел у працы камунальных сэкцый жанчын дэлегатак і сяброў ЛКСМ.

Колькасьць разгледжаных камунальнымі сэкцыямі пытаньняў, напрыклад, у Слуцку—190, Магілеву—450 і Віцебск—56 яскрава сьведчыць аб тым, што аб'ектаў дзеля працы камунальных сэкцый досыць, неабходны толькі, каб гэтыя аб'екты заўсёды былі пад сталым наглядам камунальнай сэкцыі.

Е. Кроль

# Становішча Сеньненсскага раёну.

У старыя часы Сеньненскі павет меў каля 100.000 насельніцтва, у якім галоўнаю масаю зьяўлялася сялянства—беднякі і серадняки.

На ўвесь павет было адно гарадзкое вучылішча, якое не давала сярэдняй адукацыі, і жаночая прагімназія. Паступленьне ў іх было абмяжована для беднякоў і серадлякоў тым, што эканамічныя ўмовы не давалі магчымасьці ім утрымоўваць у гарадох сваіх дзяцей. Затое ў іх набіралася поўна дзяцей дваран, мяшчан, гандляроў і вясковай вярхушкі—кулацтва. Вось як раней камплектавалася школа чужым нам элемэнтам. Стары царскі ўрад рабіў гэта для таго, каб трымаць ў чорнай шкуры рабочых і бяднейшае сялянства.

Кастрычнік зьнішчыў уладу „імущих" і нацыянальную розьнь, перадаўшы ўладу ў рукі пралетарыяту, які пачаў будаваць жыцьцё так, як лепш рабочаму, бедняку і серадняку. Цяпер, з мэтаю набліжэньня ўстаноў да насяленьня, замест павету існуе раён, які яднае каля 53.000 насельніцтва. Замест гарадзкога вучылішча і жаночай прагімназіі адчынены 4 сямігодкі: 2 беларускіх, адна яўрэйская і адна польская, а таксама пачала разгортвацца 5-я сямігодка ва Ульянаўскім с/савеце. Вядома, гэтага недастаткова, але-ж параўнаўшы з старым часам, школьная сетка пашырылася ў пяць разоў і ахапіла, галоўным чынам, беднату і частку серадняцтва. Пры школах, каб забясьпечыць мажлівасьць навучаньня дзяцей беднаты, адчынен інтэрнат. Наглядаюцца недавольствы заможнай часткі, што іх дзяцей не прынялі ў школы, але яны папрыстройвалі сваіх дзяцей у іншых гарадох; вядома бедняку гэта не па сілах. Такое камплектаваньне школ вучнямі—правільнае і яго трэба захоўваць і на далей. Трэба пашырыць інтэрнат і павялічыць лік сямігодак у раёне—культурны ровень вёскі гэтага патрабуе.

### Становішча бальніц.

Сеньненская бальніца выклікае ня зусім добрае ўражаньне. Сьцены брудныя, мокрыя; ложкі пастаўлены да ўсіх сьценак; бялізна рознастайная; сяляне ўкрываюцца сваёю вопраткаю—хто чым мае; у пакоях холадна. Выгляд—не бальніцы, а заезджага дому. Загадчык бальніцы стараўся даказаць, што гэта сталася так затым, што ня было грошай, сваечасова не далі дроў. Бальніца вельмі перагружана хворымі—замест 25 ложкаў, трымаецца 47. Цяжкія ўмовы загадчыцы, якая сустрэла нас такімі словамі „што мне рабіць? Няма дзе сушыць бялізну. Ці-ж мне сядзець і начаваць" І сапраўды, умовы цяжкія, бо бальніца не адрымантавана і не абгароджана—хто дзе захоча, там і пройдзе. Абгароджана толькі ад шляху, для хараства. Дактароў цяпер—7, царскі-ж урад утрымоўваў толькі 2-х. Ёсьць яшчэ 2 ўрачэбныя вучасткі: у Пустынскім і Ульлянаўскім с/саветах. У апошнім абсталяваньне памяшканьня добрае.

### Справа дзіцячага дому.

У былым маёнтку Зазер'е дому адведзен дапатопны будынак, які стаіць на курыных ножках. Цячэ усюды, сьцены выпірае, чакаюць з хвіліны на хвіліну, ці скора разбурыцца будынак. Загадчык—даволі энэргічны, але ня ведае, што рабіць. Адпусьцілі 1000 рублёў, але што можна зрабіць на іх, калі патрэбен капітальны рамонт. Праўда старшыня РВК новы чалавек, які дакляраваў прыняць меры. Покуль-жа ўтрыманьне 43 дзяцей у такім памяшканьні нельга лічыць дапушчальным. Дзіцячы дом трэба перавесьці ў іншы будынак або пабудаваць новы, бо рамонт старога нічога ня дасьць.

### Сувязь сялян з Віцебскам.

Сянно стаіць у 65 вярстах ад Віцебску і ў 14 вярстах ад чыгункі. Каб папасьці ў Віцебск трэба ехаць на Воршу—60 клм., а з Воршы да Віцебску—80 клм., а ўсяго сеньненцу трэба праехаць чыгункаю 140 клм. Сувязь—ня зручная.—Раённы выканаўчы камітэт падняў пытаньне перад акругай аб устанаўленьні аўтабуснага руху, але акруговы выканаўчы камітэт яшчэ ня вырашыў гэтага пытаньня. Акрвыканкому трэба пайці на сустрач далёкаму раёну і ўстанавіць аўтабусны рух Багушэўск—Сянно.

### Прамысловасьць.

Цяпер Сеньненская прамысловасьць пераабсталёўваецца. Прыяжджаў акруговы інжэнэр, які высьвятліў яе становішча і даў свае заўвагі аб пераабсталяваньні. Інжэнэр лічыць, што трэба арганізаваць камбінат з памольнаю, лесапільнаю, ваўначоснаю, маслярнаю і сукнавальнаю вытворчасьцю, якія зараз там распылены. Для гэтага меркавалася аб'яднаць два паравых млыны ў адзін на чатыры паставы, што дало-б 112 к. сіл, з тым, каб частку гэтай энэргіі скарыстаць на электрычнае самаабслугоўваньне. Але раённы выканаўчы камітэт не згадзіўся на аб'яднаньне млыноў, выходзячы са становішча гэтага году, калі адзін млын поўнасьцю не нагружан. Гэта ня верна, бо ва ўрадлівыя гады нават цяжка справіцца двум млыном з перамоламі. Адначасова неабходна зьвярнуць увагу на выкарыстаньне адпушчаных на пераабсталяваньне сродкаў—4000 руб. Трэба гэта праверыць, каб зьнішчыць тыя недарэчнасьці, якія наглядаюцца на месцы.

### Торпараспрацоўкі.

Райвыканком распрацоўку торпу паставіў ва ўсю шырыню, даўшы добры прыклад пераводам сваіх усноў на торпавы апал. У мінулым годзе торпу выпрацава на200 кубаў, а на гэтых год плян скадзен на 450 кубоў. Устанаўляецца торповая машына. Патрэбен сваечасовы водпуск крэдыту, каб сваечасова пачаць працу.

### Агнятрывалае будаўніцтва.

Агнятрывалае будаўніцтва таксама пачынае разгортвацца. Аганізавана адно бэтонна-чэрапічнае т-ва, якое выпрацавала 300 кольцаў на студні, зрабіла 25000 штук чарапіцы. Побач з гэтым пабудован з пустацелега каменю дом для ўрачэбнага пункту. На гэты год па пляну павінна быць загатоўлена 300 кольцаў на студні, 300 кольцаў на масты, 25.000 чарапіцы і 100.000 штук цэглы. Райвыканком лічыць неабходным арганізаваць яшчэ два агнятрывалыя т-вы.

### Самаабкладаньне.

Самаабкладаньне прайшло ў сярэднім па раёну на 20 проц. Трэба сказаць, што самаабкладаньне праходзіла ў некаторых вучастках слаба, бо с-саветы слаба разгарнулі працу сярод сялян, слаба падгатавалі да кампаніі. Пры вызначэньні самаабкладаньня ня было яснай мэтавай устаноўкі, а гаварылася агульна „на школы, на бальніцы, на дорогі, на пажарныя машыны". Ня было плянаў расходаваньня сродкаў па с-саветах і няма яшчэ і цяпер. У выніку с-саветы ня ведаюць колькі будзе каштаваць прыклад на пабудова школы, рамонт маста і г. д.

### Сельсаветы.

У некаторых с-саветах ёсьць добрыя памяшканьні з некалькімі пакоямі, але, на вялікі жаль, у гэтых

пакоях можна зьмерзнуць. Дзьверы бяз ручак і клямак, замкі прычэплены вяровачкамі, шыбы пабітыя, дроў няма. Сялене, сабраўшыся ў с-савет накурваюць, шумяць кожны па свойму. Працаваць у такіх умовах нельга і вінаваты у гэтым, галоўным чынам, старшыні сельсаветаў. Можна было-б падлічыць, колькі каштуе рамонт вокан, дзьвярэй, абсталяваньне памяшканьняў і зрабіць за сродкі самаабкладаньня, але ня было ініцыятывы. Лепш абстаіць справа там, дзе нанятое памяшканьне, дзе сам гаспадар даглядае за сваім будынкам. У далейшым неабходна зьвярнуць увагу на тое, каб бальніцы былі ў парадку, каб своечасова дастаўляліся дровы і без гандлёвай надбаўкі. Таксама неабходна выдаць крэдыт на торпараспрацоўкі, палепшыць сувязь с-саветаў з грамадзкімі арганізацыямі, увесьці плянавае будаўніцтва школ, дарог, мастоў, паставіўшы задачу, каб кожны с-с. будаваў па адным бятонным мосьце на сваёй тэрыторыі—праз гэта ляжыць шлях да лепшага жыцьця.

І. Масальскі.

# Самахвалавіцкі раён.

Самахвалавіцкі раён пасьля апошняга ўзбуйненьня ў 1927 г. павялічыўся за кошт б. Шацкага раёну і зараз мае 17 сельсаветаў з агульным лікам 51578 чалавек. Плошча раёну займае 1165,5 кв. кілёмэтраў, што складае шчыльнасьць насельніцтва 42—43 чал. на 1 кв. кілёмэтр.

За апошнія два гады райвыканком зьвяртаў надзвычайна шмат увагі гаспадарчай працы, дзякуючы чаму ёсьць значныя вынікі ў падняцьці с.-гаспадаркі і ўсямернага абслугоўваньня бедняцка-серадняцкіх мас, чым наказ IV раённага зьезду выканан на 90 проц.

## Сельская гаспадарка.

Самахвалавіцкі раён налічвае ў сваіх межах 9300 паасобных гаспадарак з плошчаю пахаці ў 65894 гэк. і сенажаці 12101 гэктар, 13 буйных савецкіх гаспадарак з плошчаю 2.635 гэктараў, 2 камуны і 4 арцелі з плошчаю 553,9 гэктараў, за апошнія гады шмат зроблена у падняцьці с.-гаспадаркі, дзякуючы чаму плошча тэхнічных культур і карняплодаў значна ўзрасла. Значныя мерапрыемствы па падняцьцю с.-гаспадаркі і паляводзтва і павышэньня ўраджайнасьці праводзяцца пры земляупарадкаваньні і пасяўной кампаніі.

Разьвіцьцё с.-гаспадаркі і пашырэньне тэхнічных культтраў і карняплодаў асабліва спрыяе жывёлагадоўлі, якая галіна пастаўлена на належную вышыню і разводзіцца ў большасьці жывёла «Чырвона-Беларуска-Літоўскай» пароды.

Праца па гадоўлі Чырвона-Беларускай пароды,—пастаўлена на належную вышыню і з гэтаю мэтаю быў арганізаван саюз завадчыкоў, які налічвае 126 членаў, а ў раёне ўтворана 54 злучныя пункты, з якога ліку ў апошнія гады арганізавана 24.

Усяго гэтай пароды ў раёне налічваецца 1420 галоў.

Саюзам завадчыкоў пастаўлена пытаньне аб распаўсюджваньню маладняка ў другія раёны і ў гэтым годзе прададзена 60 штук маладняня і 15 быкоў.

Разьвіцьцё жывёлагадоўлі ў сваю чаргу павялічае і колькасьць малочнае прадукцыі, якая збываецца праз арцелі, якіх налічваецца 15.

Пры 3-х арцелях пабудаваны заводы па перапрацоўцы малака на сыры і масла. Усяго арцелямі яднаецца 65 проц. сялянскіх двароў. Сьвінагадоўля і гадоўля авец ня мае сталага посьпеху ў разьвіцьці і толькі канягадоўля значна паляпшаецца, і ў раёне налічваецца вытворцаў у колькасьці 69 штук і на конзаводзе ў пл. Самуэлева 42 жарабкі-вытворцы.

## Аградапамога насяленьню.

Аграпэрсанал у раёне якога налічваецца 4 адзінкі, цалком і поўнасьцю задаволіць запатрабаваньні ня змог, але насельніцтву аказана значная дапамога, асабліва ў часе пасяўных кампаній: ачышчана 460 тон насеньня і пратручана 20 тон. Пры ачыстцы насеньня працавала 19 стацыянарных пунктаў, на якіх налічваецца 25 машын, з якіх 16 трыераў. Дзеля задавальненьня бедняцка-серадняцкага складу насельніцтва насеньнем у 1928 годзе загатоўлена і разьмяркована: аўса 80.850 кг. ячмэню 31.530 кг., канюшыны—8080 кг., цімафееўкі—400 кг., вікі 8.986 кг., сэрадэлы 5.471 кг., лубіну 4.044 кг. і буракоў кармовых 4.350 кг. Апрача гэтага завезена сэлекцыйнага насеньня аўса і ячменю 1.357 пудоў. Разам з гэтым у часе пасяўных кампаній завезена розных угнаеньняў у наступным ліку: супэрфасфату 20.570 кг., тамасшлаку 5.000 кг., калійнай солі—19.500 кг., чылійскай салітры 826 кг., а разам 45.896 кг. Праведзена праца і па машынізацыі ў выніку чаго разьмяркована: 185 плугоў, 65 барон, 18 акучнікаў, 3 сеялкі, 56 арфаў, 69 малатарняў, 50 сячкарняў і 7 жнеяк.

## Земляўпарадкаваньне

Праца па земляўпарадкаваньню ў апошнія гады праводзілася плянова і пляны выкананы на 90 проц. Усяго ў раёне працуе 5 каморнікаў, якія ў г-г. зрабілі абрэзку і земляўпарадкавалі плошчу ў 1.841 гэкт. Земляўпарадкаваньне ў раёне мае пераважна пасялковы напрамак і агульная плошча земляўпарадкавана на 35 проц. У гэтым напрамку раённаму зьезду прыдзецца зьвярнуць значную ўвагу на паскарэньне тэмпу земляўпарадкаваньня і арганізацыю новых форм апрацоўкі глебы.

З агульнага ліку 13 саўгасаў:—3—маюць ухіл жывёлагадоўчы і 10—паляводчы.

Арцель «Бальшавік» і камуна «Зьвязда» зьяўляюцца лепшымі паказчыкамі паляпшэньня форм апрацоўкі і маюць вялікую аўторытэтнасьць сярод вакольнага насельніцтва. Думка аб падзеле камун і арцеляў—у насельніцтва адпала і часта можна пачуць размовы аб колектывізацыі.

## Меліарацыя.

У раёне налічваецца да 10.000 гк. забалочанае глебы. Меліарацыя і падгатоўчая да яе праца пачала праводзіцца з 1924 г. і да гэтага часу падрыхтоўчыя работы праведзены на плошчы 1600 гэкт., з якіх плошча да 60 гэкт. узорана і засеяна культтравамі.

Уся праца праводзіцца меліарацыйнымі таварыствамі, якіх у раёне налічваецца 20 з агульным лікам членаў 907. Праца праводзіцца па пляну, зацьверджаным Менакраза.

## Торпараспрацоўкі.

Дзякуючы малалясістасьці ўсяго лесу налічваецца па раёну 8842 гэктары, з якога ліку лясоў мясцовага значэньня 2546 гэкт., значная частка якіх зьнішчана, і ў раёне наглядаецца крызіс з апалам. Гэта прымусіла насельніцтва зьвярнуцца і да торпу, які зараз зьяўляецца галоўным апалам і якога маюцца аграмадныя залежы. Усю працу па здабыцьцю торпу праводзяць 25 тарпяных т-стваў, якія яднаюць 1800 гаспадарак.

Частка насельніцтва да гэтага часу здабывае торп неарганізаваным парадкам, але прымаюцца ўсе крокі да паляпшэньня працы ў гэтым напрамку і ў гэтым годзе здабыта 6700 кубаў торпу, з якіх 869 кубаў здабыта савгасамі, а астатнія прадпрыемствамі.

**Агнятрывалае будаўніцтва.**

У 1925 годзе была адчынена ў м. Самахвалавічы агнятрывалая майстэрня, якая да гэтага часу мае значныя посьпехі. Зараз т-ства яднае 382 гаспадаркі з паявым капіталам у 1800 руб.

Дзеля большага задавальненьня патрэб сялянства—агнятрывалымі вырабамі, як чарапіцай, студнявымі кругамі і пустацелымі каменьнямі, у гэтым годзе адчынена аддзяленьне ў Грычынскім с.-савеце. Усяго за 1928 год выраблена 90,185 штук чарапіцы, 1118 студнявых кругоў і 1225 пустацелых каменьняў. Усяго па раёну да гэтага часу ёсьць больш 40 чаранічных стрэх і 100 калодзезяў. Гэта галіна прамысловасьці мае вялікую пэрспэктыву у сваім разьвіцьці.

**Камунальнае будаўніцтва.**

Апошні год зьяўляўся вялікім будаўнічым годам у раёне. Усяго ў 1928 годзе патрачана на дарожнае будаўніцтва сродкаў ад самаабкладаньня 11997 руб. і 1000 руб. з раённага каштарысу. У 1928 годзе праведзен і капітальны рамонт стала адрамантавана 600 паг. мэтраў мастоў—працягам 48 паг. мэтраў, раў грэбляў і мяйсцовага значэньня адрамантована 64 масты на працягу 203 мэтраў і папраўлена грэбля часткамі ў 60 мясцох на працягу 2,604 мэтраў.

Пабудавана вэтырынарная раённая лячэбніца, якая каштавала 14000 р. і рамонт камунальных будынкаў (апрача школ) выразіўся у суме 4500 руб.

Зараз па раёну налічваецца 54 пажарныя дружыны, з якіх 10 арганізавана ў 1928 г.

У пажарных дружынах налічваецца 55 насосаў і іншым інвэнтаром дружыны таксама забясьпечаны здавальняюча.

**Каапэрацыя.**

Па раёну ёсьць 3 сельска-гаспадарчых крэдытных т-вы, якія налічваюць 1894 сяброў і маюць паявога капіталу 14864 р. 91 кап., што складае ў сярэднім 7 р. 85 кап. паявога капіталу на пайшчыка.

10 спажывецкіх т-стваў раёну налічваюць 7554 члены, што складае каапэраванасьць сялянства на 81,5 проц.

Паявы капітал з 17.562 руб. у 1927 г. дасягнуў сёлета сумы ў 44862 руб. 31 кап., што дае павялічэньне на 27300 руб. 31 кап.

Разам з узмацненьнем і пашырэньнем дзейнасьці спажыў т-ства, расьце і шырыцца праца крэдытнай каапэрацыі і аказваецца значная дапамога бедняцка-серадняцкім гаспадаркам крэдытам, якога выдана ў 1928 годзе па ўсім галінам крэдытаваньня на суму 200524 руб. 61 кап.

**Прамысловасьць.**

Прамысловасьць у раёне разьвіта слаба і існуюць толькі некаторыя прадпрыемствы па апрацоўцы прадуктаў с.-гаспадаркі, як: 2 крухмальні і 14 вадзяных і 5 нафтавых млыноў.

З азначанага ліку 21 проц. млыноў знаходзіцца у руках уласьнікаў, частка ў грамадзкіх арганізацыях і толькі 6 млыноў і крухмальні знаходзяцца пад ведамам РВК. У Пяцігадовым пляне прадбачыцца пабудаваць 2 цагельні, электрафікаваць частку раёну і утварыць раённы мукамольны камбінат. На ўсе гэта прадбачыцца ўлажыць сродкаў да 30000 руб. Каштоўнасьць-жа маючыхся прадпрыемстваў зараз складае 74340 руб.

**Асьвета.**

У старыя часы ў межах сучаснага раёну існавала 24 школы з агульным лікам вучняў 1.200. Зараз-жа ў раёне налічваецца 73 школы у якіх навучаецца 5245 вучняў і ахоплен школьны ўзрост на 87%. На 28 лікпунктах існуючых у раёне навучаецца 640 няпісьменных.

Калі ў мінулым годзе агульны % к раённаму каштарысу на народную асьвету складаў 47,2 проц., то ў гэтым годзе % павялічыўся да 58,7 проц. удзельнае вагі, альбо да 113,658 руб. у абсалютных лічбах.

У 1926-27 годзе пабудавана 2 плянавыя школы на сродкі РВК і 3 школы на сродкі самаабкладаньня. У гэтым годзе асыгнована 12.000 р. на школьнае будаўніцтва і капітальны рамонт, а таксама праведзена самаабкладаньне на новае будаўніцтва на 7000 руб. і на капітальнае будаўніцтва 8.200 руб.

Уласнымі будынкамі школы забясьпечаны на 50 проц.

Праца сельсаветаў з кожным годам паляпшаецца, ўцягваецца ў працу актыў і вясковая інтэлігенцыя, а таксама заўважваецца і частковая плянавасьць. Галоўным недахопам зьяўляецца тое, што с.-с. да гэтага часу ня маюць вучоту актыву, каб скарыстаць яго у працы савету, зусім адсутнічае праца камісіі ў тым ліку і рэвізыйных і адсутнічае праца па уцягненьню жанчын ў грамадзкую і савецкую працу.

Ня гледзячы на слабую працу саветаў на мяйсцох РВК праз сваіх упаўнаважаных прыходзілася праверці вялікую працу у вёсцы сярод беднаты, лепшай часткі серадняцтва і актыву вёскі у зьвязку з гаспадарчымі кампаніямі, у выніку чаго ёсьць значныя дасягненьні. Рэалізацыя ІІ-й пазыкі індустрыялізацыі праведзена з вялікім посьпехам і рэалізавана на 33.175 р. Супроць дадзенага заданьня на 19.000 руб. Пазыкі узмацненьня с/гас. рэалізавана на 14.810 руб. і праведзена самаабкладаньня ў мінулым годзе на суму 63.369 руб.

**Бюджэт раёну.**

Бюджэт раёну з кожным годам павялічваецца і калі ў 1926-27 годзе бюджэт як выдатковы, так і прыбытковы раўняўся 173.577 руб. то ў 1927-28 г. бюджэт павялічыўся на 49.826 руб., што складае павялічэньне на 22,98 проц.

**Недахопы ў працы.**

Адзін з галоўных недахопаў у працы—гэта слабы рост калектываў гаспадарак, на які бок звярачвалася малая ўвага і праца праводзілася кампанейскі. Адсутнічала штодзённая ўпартая праца ў напрамку стварэньня новых камун, арцеляй і колектываў, што неабходна праводзіць у часы землеўпарадкаваньня. Заўважваюцца бюракратычныя адносіны некаторых супрацоўнікаў і хаджэньне папер са стала на стол па цэлым м-цам. Некаторым працаўнікам дадзен выгавар, але гэтага мала і з бюракратычнымі зьявамі трэба весьці рашучую барацьбу.

**Вынікі.**

Падагульваючы вынікі працы РВК за два апошніх гады, неабходна зазначыць, што РВК да V раённага зьезду мае значныя дасягненьні у гаспадарчым і культурным будаўніцтве, ў падняцьці актыўнасьці бедняцка-серадняцкіх мас, што паказала перавыбарчая кампанія і выканаў наказ IV раённага зьезду на 90 проц.

П. Лабус.

# Агляд пастаноў па пытаньнях будаўніцтва саветаў.

*За люты 1929 г.*

1. 2-га лютага Прэзыдыум ЦВК заслухаў папярэдні даклад аб ходзе справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў і аб выкананьні дырэктыў ЦВК па гэтым пытаньні. Зьмест прынятай пастановы па гэтым пытаньні выкладзен у № 6, „Саветаў Беларусі“ ў артыкуле „Прэзыдыум ЦВК БССР аб ходзе справаздачна-перавыбарчай кампаніі“.

2. 2-га лютага зацьверджана ЦВК і СНК БССР „Палажэньне пра Галоўную Управу шасэйных і грунтавых дарог і аўтамабільнага транспарту БССР“. Гэта Палажэньне прадугледжвае арганізацыю пры акруговых выканаўчых камітэтах спэцыяльных аддзелаў“ шасэйных і грунтавых дарог і аўтамабільнага транспарту“. У пастанове аб зацьверджаньні паказанага Палажэньня вызначан тэрмін арганізацыі гэтых аддзелаў—да 15 лютага 1929 г. У сувязі з гэтым скасаваны інспэкцыі дарожнага будаўніцтва АВК, а ў МКУС скасавана пасада Інспэктара па дарожнай справе.

3. 2-га лютага зацьверджана ЦВК і СНК БССР Палажэньне пра Бюро Скаргаў НК РСІ і акруговых рабоча-сялянскіх інспэкцый. Гэтыя бюро арганізаваны для змаганьня з бюракратызмам, валакітай і нядбайнымі адносінамі паасобных працаўнікоў дзяржаўных, каапэрацыйных і грамадзкіх установаў і прадпрыемстваў да запатрабаваньняў рабочых і сялян. Сталымі работнікамі бюро скаргаў зьяўляюцца іх загадчыкі. Больш важныя скаргі, што маюць грамадзкае значэньне разглядаюцца на спэцыяльных пасяджэньнях бюро скаргаў у складзе, апроч загадчыка, 2—4 засядацеляў, у залежнасьці ад важнасьці справы. Члены-засядацелі выбіраюцца на адзін год прафэсыянальнымі і грамадзкімі арганізацыямі. Бюро Скаргаў маюць права зрабіць вінаватаму перасьцярогу, вымогу, зьняць яго з пасады, перадаць справу аб ім у суд. Пастановы бюро набываюць моц толькі пасьля адпаведнага зацьверджаньня іх НК РСІ (пастановы бюро пры НК РСІ), або загадчыкам акруговае рабоча-сялянскае інспэкцыі (пастановы акруговых бюро скаргаў). Бюро Скаргаў НК РСІ разглядае скаргі на дзеяньні працаўнікоў цэнтральных установаў і прадпрыемстваў і старшынь АВК.

4. 21-га лютага Прэзыдыум ЦВК прыняў пастанову аб арганізацыі ў Мазырскай акрузе, у Нараўлянскім раёне Акопскага Украінскага нацыянальнага савету ў складзе вёсак: Акопы, Гразьліва, Піхін і Ясенкі з цэнтрам у в. Акопы. З арганізацыі гэтага савету ў БССР маецца 3 украінскіх нацыянальных сельскіх саветаў.

5. 21-га лютага Прэзыдыум ЦВК згадзіўся з праэктам прэміраваньня лепшых па конкурсу сельскіх і мястэчковых саветаў з іх камісіямі і лепшых сэкцый гарадзкога савету. Цэнтральная Конкурсная Камісія, распрацаваўшая гэты праэкт, устанавіла 8 прэмій для сельскіх і мястэчковых саветаў, 8 прэмій для лепшых камісій саветаў, 8 прэмій для сэкцый гарсаветаў і 24 прэміі за лепшыя карэспандэнцыі. Размер прэмій вызначаны ад 1000 рублёў да 12 рублёў.

6. 23 лютага Прэзыдыум ЦВК зацьвердзіў новае палажэньне аб членах і кандыдатах у члены ЦВК, скасаваўшы пры гэтым старае Палажэньне 1924 году. Прынцыповых зьмен у новым Палажэньні няма. Яно толькі дапоўнена і зьменена ў адпаведнасьці з тым законадаўствам, якое было выдадзена пасьля 1924 году.

7. 23-га лютага Прэзыдыум ЦВК згадзіўся са штатамі гарадзкіх саветаў неакруговых гарадоў, якія ўстаноўлены НК РСІ. Апошні ўстанавіў наступныя штаты: для Барысаўскага гарсавету—$30^1/_2$ штатных адзінак, для Слуцкага—13, Клімавіцкага—9, Рэчыцкага—12, Добрушскага—5. Для Рагачоўскага, Быхаўскага і Шклоўскага Гарсаветаў—3 штатных адзінкі (старшыня, тэхнічны сакратар і тэхнік) і для ўсіх астатніх гарадоў—2 адзінкі (старшыня і тэхнічны сакратар),

8. 23-га лютага Прэзыдыум ЦВК дазволіў Гомельскаму Акруговаму Выканаўчаму Камітэту арганізаваць Нова-Беліцкі раённы гарадзі савет. Раённыя гарадзія саветы, згодна 2 арт. Палажэньня аб гарадзкіх саветах, арганізоўваюцца ў гарадох з насельніцтвам больш 100.000 чал., а ў іншых гарадох—з дазволу Прэзыдыуму ЦВК. Выбары ў раённыя гарадзкія саветы праводзяцца самастойна ад выбараў у агульны гарадзкі савет.

9. 23-га лютага прынята пастанова ЦВК і СНК аб зьмене і дапаўненьні пастановы за 17 мая 1928 году „пра парадак выданьня акруговымі і раённымі выканаўчымі камітэтамі і гарадзкімі саветамі абавязковых пастаноў і пра накладаньне адміністрацыйных пакараньняў за іх парушэньне“. Галоўным у гэтых зьменах зьяўляецца наступнае: пастанова за 17 мая 1928 г. прыведзена ў адпаведнасьць з новым Крымінальным Кодэксам БССР (які быў зацьверджан ЦВК на III-й Сэсіі VIII скліканьня) у той частцы, якая вызначала пэўныя артыкулы Кодэксу, справы аб парушэньні якіх разглядаліся ў адміністрацыйным парадку. Затым. установлена, што абавязковыя пастановы гарадзкіх саветаў скасоўваюцца адпаведнымі выканаўчымі камітэтамі, якім падкарадкаваны гарадзкія саветы (раней абавязковыя пастановы гарадзкіхсаветаў скасоўваліся толькі АВК). Разьмеры пакараньняў, якія могуць устанаўляць раённыя выканаўчыя камітэты за парушэньне выданых імі абавязковых пастаноў зьніжаны да 3 рублёў штрафу і двух дзён прымусовых работ. У гэтай частцы пастанова за 17 мая 1928 г. наогул прыведзена ў адпаведнасьць з Саюзным законам за 4 студзеня 1928 году „пра абмежаваньне накладаньня штрафаў у адміністрацыйным парадку“. Установлена, што за парушэньне абавязковых пастаноў на тэрыторыі акруговых гарадоў пакараньні накладаюць гарадзкія саветы непасрэдна або праз начальніка адміністрацыйнага аддзелу акруговага выканаўчага камітэту (раней гарадзкія саветы акруговых гарадоў самі не разглядалі спраў аб парушэньні іх абавязковых пастаноў).

10. 23-га лютага Прэзыдыум ЦВК устанавіў наступныя канчатковыя тэрміны скліканьня зьездаў саветаў; раённыя—у сакавіку, акруговыя—з 20-га сакавіка па 5-е мая 1929 году і IX Усебеларускі Зьезд Саветаў—склікаецца на 8 мая 1929 году з наступным парадкам дню: 1) справаздача Ураду БССР, 2) пяцігадовы плян разьвіцьця народнае гаспадаркі і культуры БССР, 3) даклад Камандуючага Беларускай Ваеннай Акругі аб становішчы Чырвонай Арміі, 4) пра зьмены ў Канстытуцыі БССР, 5) выбары ЦВК БССР, 6) выбары ад БССР членаў Савету Нацыянальнасьцяў ЦВК Саюзу ССР.

*А. П.*

Друкарня БДВ. Галоўлітбел № 302.